У НУМАРЫ





# Ніва


БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 8 (730) ГОД XV БЕЛАСТОК 22 ЛЮТАГА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## БГКТ хроніка

■ 31 студзеня прэзідыум гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку супольна з радай клуба абмяркоўвалі формы клубнай працы і вырашылі ўвесці карты ўступу да клуба.

■ На пасяджэнні прэзідыума гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку 3-га лютага старшыні паасобных камісій аддзела (рада клуба, культурна-асветная, арганізацыйная) зрабілі справаздачы з працы за месяц студзень.

■ У апошні час у Бельскім павеце 280 членаў спулдзельчага аб'яднання саматужнікаў і народных вытворцаў уступіла ў рады БГКТ. 28 студзеня пры пункце скупу вырабаў гэтага аб'яднання ў Бельску ўтвораны гурток БГКТ, які ўзначальваецца кіраўніком пункта М. Сахарчуком. На гэтым сходзе старшыня бельскага аддзела М. Гайдук выступіў з дакладам на тэму: «Матэрыяльная культура і роля аб'яднання саматужнікаў і народных вытворцаў у развіцці нацыянальнай культуры».

■ 6-га лютага старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі, сакратар Янка Зенюк і кіраўнік культурна-асветнага аддзела Уладзімір Паўлоўскі ў Дуброве сустрэліся з сакратарамі павятовага камітэта ПАРП Аляксеем Валошыным і Аляксандрам Жданукам. На сустрэчы абмяркоўваліся спосабы паляпшэння дзейнасці дуброўскага аддзела БГКТ. Між іншым, гаварылася аб тым, што праўленне аддзела БГКТ павінна быць перанесена з вёскі Ячна ў павятовы цэнтр — Дуброву.

■ 7-га лютага доктар філалагічных навук Аляксандр Баршчэўскі ў гарадскім аддзеле БГКТ у Беластоку прачытаў даклад на тэму: «Ленін і справы Польшчы». Пасля адбылася танцавальная вечарына для моладзі.

■ У вёсцы Страшава сакратар беластоцкага павятовага праўлення БГКТ Янка Цялушэцкі выступіў з дакладам «Аб жыцці і дзейнасці У. І. Леніна».

■ Гайнаўскі аддзел БГКТ падрыхтаваў некалькі фотавыставак аб Леніне. Яны перадазаны для карыстання вясковым гурткам БГКТ.



Гродна. Фота Я. Краўчанка. Здымак атрыманы ў рамках міжрэдакцыйнага абмену.

## Суседзі

Першымі дзяржаўнымі актамі маладой савецкай рэвалюцыйнай улады былі дэкрэты аб міры і зямлі. Аўтарам гэтых дэкрэтаў з'яўляўся Уладзімір Ленін, сотую гадавіну з дня нараджэння якога зараз урачыста адзначаем. Марыў ён аб тым, каб людзі і народы жылі без войнаў, у дружбе, каб дзяржаўныя межы не з'яўляліся варожымі лініямі.

Ажыццяўленне гэтых ленінскіх прынцыпаў можна зараз наглядаць на прыкладзе братэрскіх прыгранічных суадносін між Гродзенскай вобласцю БССР і Беластоцкім ваяводствам ПНР. Гэтыя суадносіны маюць даволі багатую гісторыю. Не раз інфармавалі мы пра іх шматбаковыя праявы. Сёння абмяжуемся да пералічэння найбольш істотнага ў гэтых братэрскіх кантактах у мінулым 1969 годзе.

З падлікаў вынікае, што ў мінулым годзе наведала Гродзеншчыну і пабывала на Беласточчыне:

— 7 рабочых груп,

— 6 спартыўных каманд,

— 3 «аўтобусы дружбы»,

— 60-асабовыя групы гарцэраў і піянераў праводзіла канікулы ў нашых і іх летніх лагерах,

— па 30 асоб, членаў прафсаюзаў, адпачывала на нашых і іх курортах,

— дакладчыкі з нашага і іх бакоў выступалі з дакладамі аб найважнейшых гаспадарчых і грамадскіх справах Гродзеншчыны і Беласточчыны,

— паміж «Гродзенскай Праўдай» і «Газетай Беластоцкай» ды «Нівай» праводзіўся пастаянны абмен журналісцкіх матэрыялаў, якія знаёмілі чытачоў пра жыццё і працу нашых прыгранічных раёнаў. Такі ж абмен існаваў і існуе між Беластоцкім радыё і Гродзенскім абласным радыёкамітэтам.

У нашых сяброўскіх прыгранічных кантактах выдзяліць можна некалькі асноўных напрамкаў.

Першы: кантакты, так сказаць, рабочага, гаспадарчага характару. Тут самай важнай справай з'яўляецца абмен прадукцыйным вопытам. У шчырых сяброў няма таямніц, у іх ёсць толькі агульнае імкненне да павышэння ўзроўню свайго жыцця. У такой жа атмасферы праходзілі гэтыя кантакты. Вось беластоцкія ляснікі пасля пабыўкі ў сваіх сяброў па прафесіі з Гродзенскай вобласці дайшлі да вываду, што добра было б, так як на Гродзеншчыне, і ў нас наладзіць прадукцыю вітамінавай мукі з сасновых іголак, што можна механізаваць пасадку лесу, што шмат іншых карысных спраў, выпрабаваных на Гродзеншчыне, не зашкодзіла б прымяніць у лясной гаспадарцы на Беласточчыне.

Працаўнікі гарадской камунальнай гаспадаркі «падгледзелі» ў Гродне, як можна механізаваць установкі абагравальнай сеткі, як танным коштам арганізаваць адміністрацыю жылых дамоў, як спраўна праводзіць ачыстку горада ад снегу, як будаваць болей трывалыя тратуары, як абсталёўваць высокапрадукцыйныя шклярні для вырошчвання ранняй агародніны.

Беластоцкія ветэрынары пазнаёміліся з цікавым вопытам у галіне аховы здароўя жывёлы.

Неабходна тут яшчэ ўспомніць аб традыцыйных ужо кантактах працаўнікоў тэкстыльных камбінатаў з Беластока і Гродна.

(Працяг на стар. 4)

## ...і наш павет адродзіцца

Снегам Беласточчына не скупая і ў гэтым годзе. І праз снежныя прасторы рознымі спосабамі прыйшлі дэлегаты на павятовую канферэнцыю беластоцкага аддзела Беларускага таварыства. Яна адбылася ў Беластоку ў памяшканні Галоўнага праўлення БГКТ на вул. Варшаўскай 11.

Дэлегаты былі з Рыбакоў, Чарэўкаў, Пянькоў, Страшава, Багнюкоў, Міхалова, Гарадка. Было многа энергічных і актыўных жанчын. З прыемнасцю падкрэсліваем гэтую сімпатычную спецыфіку беластоцкага аддзела БГКТ (так масавага ўдзелу жанчын не мае ніякі іншы аддзел БГКТ), а самых актыўных прадстаўляем: Ірына Буслоўская з Міхалова, Ніна Мушынская, Ніна Цыванюк, Ларыса Матусік з Гарадка, Марыя Вярцінская і Зіна Лебядзінская са Страшава. Канферэнцыя была вельмі ажыўленай. Вырашала яна дзве асноўныя справы з парадку дня: першае — канферэнцыя павінна была разгледзець справу перанясення сядзібы аддзела ў Беласток, другое — аддзел беластоцкі сваёй далейшай дзейнасцю павінен ахапіць увесь павет, а не толькі раён Гарадка і Міхалова, пакідаючы, як было сказана, «белыя плямы ў дзейнасці» на ўсёй шырыні цэнтральнай часткі павета, трэба таксама даехаць і ў тлуш густа населеных прыгранічных вёсак.

Дагэтуль існаваў фармальна, але не працаваў, аддзел у Міхалове і існаваў нефармальна, але працаваў, аддзел у Гарадку. Новая сядзіба аддзела ў Беластоку стварае агульную плошчу дзеяння і мажлівасць кантактаў з павятовымі ўладамі, што ў грамадскай працы таварыства, вядома, неабходна.

Дыскусія была настолькі цікавай, што рашылі мы, замест абагульняючых вывадаў, прывесці некаторыя галасы з дыскусіі ў арыгінале.

**Мікалай Матэйчык, Гарадок**

«Скажыце, таварыш Полацкі (тав. Полацкі з Міхалова быў за тым, каб аддзел пакінуць у Міхалове), колькі разоў вы былі ў павятовым камітэце партыі, ці ў радзе нарадовай? А яны тут у павеце кіруюць. — Мы павінны мець кантакты з партыяй, з уладамі, з маладзёжнымі арганізацыямі, а не толькі з сабою. Не было ў нас такіх кантактаў і працы не было. Гэта наш вялікі прабел. Аддзел павінен бачыць і ахопліваць увесь павет. Найбольшы ўжо час ліквідаваць партыкулярныя інтарэсы Міхалова, ці Гарадка і вывесці наш аддзел на чыстыя і шырокія воды. Столькі аб справах арганізацыйных.

Трэба, аднак, гаварыць нам і аб праграме. У Гарадку культурная праца наладзілася. Гарадок блішчыць, пакуль што. У Гарадку былі гады худыя і тлустыя. Худыя былі тады, калі мы пераставалі працаваць з людзьмі, калі парывалі кантакты з людзьмі. А цяпер? У нашым калектыве 70% — замужнія жанчыны, а працуюць аддана і сістэматычна. Вакол Дома культуры мы канцэнтруем усе «культуры»: ГС-аўскую, БГКТ-оўскую, ЗМВ-оўскую, ТВП-оўскую і ўсе іншыя. Апрацоўваем адзін план для ўсёй грамады. Кожны там ведае, што мае рабіць.

У клубе нашым кожны вечар хто іншы гаспадарыць: раз пенсіянеры, другі — ЗМВ, трэці — гурток гаспадынь, чацвёрты — гурток беларускага таварыства. Кожны думае і стараецца свой вечар арганізаваць як найлепш».

**Антон Саковіч, Міхалова**

«Праўда, Міхалова слаба працавала. На пачатку дзейнасці аддзела Галоўнае праўленне прысылала нам машыну, мы тады ездзілі па вёсках, і нават весела было. А потым ГП не дало машыны. Некаторыя ў нас сказалі: што мы будзем пехатой хадзіць?

Міхалова — асяроддзе ўвогуле цяжкое. Дом культуры стаіць, і нічога ў ім ніхто не робіць. Ніякага тут гуртка ці сустрэчы... Мы, бывала, на ўрачыстасці ў Міхалове пазычалі гурток з вёскі, каб яны нам паспявалі. У нас няма такіх арганізатараў, як у Гарадку: Мушынская і Цыванюк — гэта залатыя людзі.

(Працяг на стар. 4)

# ◇ Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі ◇



## СВЕТ

### НАЎМЫСНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА

У Каіры адбыліся масавыя дэманстрацыі. Дэманструючыя выказвалі сваё абурэнне ў сувязі з варварскім налётам ізраільскай авіяцыі на цывільнае егіпецкае прадпрыемства. У выніку гэтага налёту загінула 70 чалавек, а каля 100 чалавек было паранена.

Генерал Даян, выступаючы ў канцы студзеня г.г. на снеданні для заграгічнай прэсы, наступнымі словамі акрэсліў мэты ізраільскай эскаляцыі: «Хочам аслабіць егіпецкі рэжым, указваючы егіпецкім масам, што іх праваадыры памыляюцца ў сапраўднай ацэнцы сітуацыі, звязанай з ізраільска-арабскім канфліктам».

### НАСЕЛЬНІЦТВА ААР

Насельніцтва Аб'яднанай Арабскай Рэспублікі дасягнула 33 мільёны чалавек. Аб гэтым гаворыцца ў паведамленні цэнтральнага ўпраўлення мабілізацыі і статыстыкі.

Згодна з гэтым паведамленнем, насельніцтва ААР павялічваецца ў сярэднім на 2,54 працэнта ў год і за апошнія 15 месяцаў узрасло на 1 мільён чалавек.

### ДЗЯРЖАЎНЫ СЕКТАР

17,5 мільёна тон сырой нафты перапрацавана ў Індыі ў 1969 годзе. Бюро інфармацыі пры ўрадзе Індыі перадае, што 9,5 мільёна тон, або больш як 54 працэнты, перапрацавана на прадпрыемствах дзяржаўнага сектара. Упершыню ў дзяржаўным сектары ачышчана больш сырой нафты, чым у прыватным сектары.

Бюро публікуе таксама даныя аб здабычы жалезнай руды. Агульная здабыча за першыя дзесяць месяцаў мінулага года склала 23,6 мільёна тон.

### ВЫСТУПЛЕННЕ ЧЭРНІКА

Міністр — старшыня Федэратыўнага камітэта па справах развіцця тэхнікі і інвестыцыі, былы прэм'ер О. Чэрнік выступіў з прамовай ў сваёй выбарчай акрузе. Заявіў ён, што праведзеныя кадравыя змены ў кіраўніцтве КПЧ і ва ўрадзе праведзены на аснове аналізу дасягнутых вынікаў, беручы пад увагу палітыку партыі ў галіне стабілізацыі жыцця.

О. Чэрнік сказаў таксама, што правёўшы самакрытычны аналіз уласнай працы, у асноўным у гадах 1968—1969, пераказаў пісьмо ў Прэзідыум ЦК КПЧ, што падае ў адстаўку. Чэрнік сцвердзіў, што поўнасцю згаджаецца з усімі прапановамі ЦК і што падтрымлівае пастановы кіраўніцтва партыі.

### ФЛАРЭНЦЫЯ ВЫБЫВАЕ

Алімпійскія гульні 1976 года не адбудуцца ў Фларэнцыі ні пры якіх умовах. Пра гэта заявіў прэзідэнт італьянскага алімпійскага камітэта Д. Анесці.

Такім чынам, у спрэчцы гарадоў за права правесці летнія алімпійскія гульні 1976 года ўдзельнічаюць цяпер тры кандыдаты: Масква, Манрэаль і Лос-Анджэлес. Сесія міжнароднага алімпійскага камітэта (МАК) у маі вырашыць, хто з іх будзе гаспадаром XXI алімпіяды.

(ак)



## БССР

### РАШЭННЕ

Камітэт па кінематаграфіі пры Савеце Міністраў Саюза ССР прыняў рашэнне аб правядзенні ў Мінску чарговага IV Усесаюзнага кінафестывалю. Ён адбудзецца 13—22 мая г.г.

Генеральным дырэктарам маючага адбыцца агляду зацверджаны намеснік старшыні Дзяржаўнага Камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па кінематаграфіі П. Жукоўскі.

У фестывалі прымуць удзел 18 студый мастацкіх фільмаў.

### НАРАДА

У Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі адбылася нарада сакратароў і загадчыкаў аддзелаў навукі і навучальных устаноў абласных камітэтаў Кампартыі Беларусі, навуковых работнікаў, работнікаў выдавецтваў, газет, часопісаў, ветэранаў партызанскага руху.

З дакладам «Задачы па выкананню пастановы ЦК КПБ «Аб дадатковых мерах па паляпшэнню навуковай апрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы ў Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны» выступіў загадчык аддзела навукі і навучальных устаноў ЦК КПБ Ц. Караткевіч. Даклад аб праекце трохтомнай працы «Усенародная барацьба супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны (чэрвень 1941 — ліпень 1944 г.г.)» зрабіў дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК Кампартыі Беларусі М. Капіч.

У рабоце нарады прынялі ўдзел сакратар ЦК КПБ С. Пілатовіч, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР І. Клімаў і намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР Р. Кісялёў.

### СЕМІНАР

У Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна адбыўся рэспубліканскі семінар выкладчыкаў грамадскіх навук вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў. Абмяркоўваліся пытанні крытыкі сучаснай буржуазнай ідэалогіі.

### СССР

У Гродне адбылася нарада-семінар работнікаў музеяў Саюза ССР. Яе адкрыў уступным словам сакратар абласнога камітэта Кампартыі Беларусі Аляксандр Ульяновіч.

Госці азнаёміліся з экспанатамі Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея, адбылі экскурсію ў Белавежскую пушчу.

### САСНОЎСКІ

За шматгадовую актыўную работу ў партыйных і савецкіх органах і ў сувязі з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння намеснік старшыні выканаўчага камітэта Гродзенскага абласнога Савета дэпутатаў працоўных Міхал Сасноўскі ўзнагароджаны Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

### ТЫДЗЕНЬ

Народны тэатр Бабруйскага гарадскога дома культуры правёў «Тыдзень мастацтва», прысвечаны ленінскаму юбілею. Самадзейныя артысты паказалі гледачам свае лепшыя спектаклі.

(ся)



## ПОЛЬШЧА

### У АДКАЗ НА ЗАКЛІК

Ва ўсёй краіне шырокім рэхам адбіўся заклік будаўнічых, шахцёраў і металургаў Любінска-Глагоўскай медзяной акругі, накіраваны да людзей працы ўсяе краіны, каб адзначыць прадукцыйнымі абавязацельствамі 25-ую гадавіну перамогі над фашызмам, павароту да Польшчы Паўночных і Заходніх зямель і 100-ую гадавіну з дня нараджэння Уладзіміра Леніна. Абавязацельствы гэтыя будуць мець вялікае значэнне ў рэалізацыі цяжкіх, якасна зусім новых сёлетніх эканамічных заданняў краіны. Першымі рабочымі, якія адклікнуліся на заклік медзяной акругі былі калектывы асноўных шахт і заводаў Дольнага Шлёнска і іншых заходніх і паўночных ваяводстваў, а таксама калектывы прадпрыемстваў, якія носяць імя Леніна.

### СЕЙМАВАЯ ПАСТАНОВА

Сейм прыняў тры новыя пастановы: аб устанаўленні польскай зоны рыбнай лоўлі, змене пастановы аб чыгунках і змене пастановы аб Польскай акадэміі навук. Першая з прынятых пастаноў устанаўлівае ад 1 студзеня 1971 года польскую зону рыбнай лоўлі шырынёю на 12 марскіх міляў. Права рыбнай лоўлі ў гэтай зоне будуць мець у асноўным толькі польскія рыбацкія судны. Рыбакі іншых краін будуць мець права лоўлі ў гэтай зоне толькі пасля падпісання дагавору паміж Польшчай і іх дзяржавай і толькі па прынцыпу ўзаемнасці.

### АНДРЭЙ ГРЭЧКА

Па запрашэнню Міністра нацыянальнай абароны Польшчы Войцеха Ярузэльскага ў нашай краіне пабывала з афіцыйным рэвізітам дружбы вайсковая дэлегацыя СССР на чале з Міністрам абароны СССР маршалам Савецкага Саюза Андрэем Грэчкам.

### ЭЛЕКТРЫФІКАЦЫЯ

Праграма электрыфікацыі вёскі і сельскай гаспадаркі на гэты год крыху скрамнейшая ад папярэдніх гадоў. Прычынай гэтага з'яўляюцца цяжкасці ў тэхнічным забеспячэнні, асабліва ў недахопах трансфарматараў і іншых устройстваў, на якія ўзрастае запатрабаванне ў розных іншых галінах гаспадаркі. Нягледзячы на гэта, аднак прадбачваецца, што ўдасца электрыфікаваць далейшых 50 тысяч гаспадарак. Да гэтага часу ва ўсёй краіне электрыфікавана 86 працэнтаў гаспадарак.

### ХІМІЯ

Сур'ёзная сума — каля 13,5 мільярда злотых — прызначаецца ў гэтым годзе на далейшы ўзрост хімічнай прамысловасці. Хаця сума гэтая з'яўляецца на 12 працэнтаў ніжэйшай ад інвестыцыйных сродкаў, прызначаных на хімію ў мінулым годзе, аднак прадукцыя гэтай галіны гаспадаркі мае пабольшыцца на 13 працэнтаў і складзе суму ў звыш 125 мільярдаў злотых.

### КАНІКУЛЫ

Як інфармуе Міністэрства асветы, вясеннія канікулы ў школах працягвацца будуць ад 26 сакавіка да 1 красавіка.

(п)



## ВАЯВОДСТВА

### АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

На фастаўскім тэкстыльным камбінаце адбыўся ўрачысты мітынг рабочага калектыву. У час мітынгу рабочыя фастаўскага камбіната рашылі адказаць на заклік дольнашлёнскіх рабочых, каб прадукцыйнымі абавязацельствамі адзначыць сотую гадавіну з дня нараджэння Леніна і 25-ую гадавіну ўз'яднання з радзімай заходніх і паўночных зямель.

Абавязацельствы фастаўскіх рабочых складаюць амаль 13 мільёнаў злотых. Адначасова фастаўскі тэкстыльны камбінат заклікае ўсе іншыя прадпрыемствы Беласточчыны, каб падобнымі прадукцыйнымі чынамі адзначылі гэтыя знамянальныя гістарычныя падзеі.

### НЯДРЭННЫ ПАЧАТАК

З падлікаў Ваяводскага статыстычнага ўпраўлення вынікае, што прамысловасць Беласточчыны паспяхова распачала 1970 год. Студзеньскі план прадукцыі быў перавыкананы. Асабліва выдайна працавалі калектывы фастаўскага тэкстыльнага камбіната, фабрыкі «Спомаш» і некаторых іншых прадпрыемстваў. Неабходна адзначыць, што перавыкананне прадукцыйных планаў наступіла ва ўмовах суровай зімы, якая дэзарганізавала нармальныя пастаўкі паліва і сыравіны.

### ПЛЕНУМ ДС

12 лютага г.г. адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне ваяводскага камітэта Дэмакратычнага странніцтва. Яго ўдзельнікі разгледзелі дзве справы: удзел членаў ДС у ажыццяўленні гаспадарчых заданняў Беластоцкага ваяводства ў 1970 годзе і святкаванне 100-ай гадавіны з дня нараджэння Леніна.

### ФЕСТЫВАЛЬ

У нядзелю, 15 лютага г.г. быў у беластоцкім тэатры ўрачыста адкрыты II Агульнапольскі фестываль музыкі і паэзіі. У першым фестывальным канцэрце прынялі, між іншым, удзел: старшыня прэзідыума ВРН С. Жмійка, сакратар ваяводскага камітэта партыі В. Мікульскі і старшыня ваяводскай камісіі прафсаюзаў Д. Карповіч. Варта адзначыць, што другі канцэрт фестываля, які адбыўся 16 лютага, быў прысвечаны ленінскаму юбілею.

### ВЫСТАЎКА

У беластоцкім музеі адкрыта выстаўка народных вырабаў. Пабачыць тут можна славутыя сакольскія дываны, багата вышываныя ручнікі, народныя ўборы, вырабы з саломы і ракіты, з дрэва і жалеза.

### ЛЕНІНСКАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

У Беластоку адбылася ўрачыстая канферэнцыя настаўнікаў, якія вучаць рускай мове ў сярэдніх школах Беласточчыны. Канферэнцыя была наладжана ў сувязі з ленінскім юбілеем. Яе ўдзельнікі выслухалі два даклады: «Ленін у літаратуры і мастацтве» і «Адносіны Леніна да Польшчы і палякаў».

(вр)




NIEDZIELA, 22.II.

7.55 Program dnia. 8.00 ,,Nowoczesność w domu i zagrodzie". 8.25 ,,Przypominamy, radzimy". 8.35 TV Kurs Rolniczy: ,,Nowe kierunki w chowie bydła". 9.10 ,,Czterej pancerni i pies". 10.30 ,,Obiektyw" — notatnik z krajów socjalistycznych. 11.00 ,,Marynarski dom". 11.30 ,,Bytów śpiewa". 12.10 Dziennik. 12.30 ,,Wasilij Kasjan" (,,W świecie sztuki") (Kijów). 13.00 VIII Wrocławski Festiwal Polskiej Muzyki Współczesnej. 13.45 ,,Przemiany". 14.15 ,,Pociągiem przez świat" — film. 14.40 Teatrzyk dla Przedszkolaków: ,,Plusk" wg motywów z bajek La Fontaine'a i ludowych baśni rosyjskich. 15.20 ,,Piórkiem i węglem". 15.40 ,,Mistrzostwa Kibiców Sportowych" — teleturniej. 16.30 ,,Świątynia Amora" (Łazienki) (,,Szlakami zabytków"). 16.55 Estrada Literacka: ,,Maria — Gertruda". 18.05 PKF. 18.15 ,,Podwieczorek przy pół czarnej". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Wiosna nad Odrą" — film fab. radz. 21.45 Festiwal Piosenki Studenckiej (Opole). 22.45 Magazyn sportowy.

PONIEDZIAŁEK, 23.II.

14.25 i 23.00 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec". 17.35 ,,Echo stadionu". 17.50 ,,Myśliwiec" — film radz. 18.15 ,,Sylwetki X Muzy" — Daniel Olbrychski. 18.45 Magazyn Postępu Technicznego. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: F. Garcia Lorca — ,,Czarująca szewcowa". 21.35 ,,Kino Filmów Animowanych". 22.05 ,,Pozdrawiam moje miasto" — program rozrywkowy. 22.40 Dziennik.

WTOREK, 24.II.

9.50 ,,Fort Olgierd" — film TVP (,,Czterej pancerni i pies"). 10.55 Dla szkół: (kl. V—VI) Język polski — ,,O miejsce wśród ludzi" (stosunek do słabszego). 11.25 Przerwa. 12.00 ,,Wybieramy zawód". 12.20 Przerwa. 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Wychów prosiąt". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Telewizyjny Ekran Młodych. 17.50 ,,Z kamerą w garnizonie". 18.20 ,,Fort Olgierd" — film TVP (,,Czterej pancerni i pies"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Koncert z okazji zakończenia IV Krajowego Zjazdu ZMW. 21.10 ,,Człowiek współczesny". 21.50 ,,Lekarz mimo woli" — nowela film. franc. 22.20 Dziennik.

ŚRODA, 25.II.

10.00 ,,Ścigany" — film. 10.50 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — ,,Pożyteczne związki wapnia". 12.25 Przerwa. 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — ,,Wypoczynek i zdrowie". 13.55 Przerwa. 14.25 i 22.55 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla dzieci: ,,Znasz już te wiersze?". 17.15 ,,Śladami Lenina" (Leningrad). 17.40 TV Kurier Warszawski. 17.55 ,,Szlakiem dobrej roboty". 18.20 ,,Wyprawa" — film. 18.40 Wszechnica TV: ,,Wielcy znani i nieznani" — Kazimierz Prószyński. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Ścigany" — film. 20.55 ,,Światowid". 21.25 PKF. 21.35 ,,Słuchamy i patrzymy" — XIV program pt. ,,Klasycyzm". 22.35 Dziennik.

CZWARTEK, 26.II.

8.15 Matematyka w szkole: ,,Zastosowanie rachunku pochodnych" cz. I. 8.45 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VII—VIII) Język polski — ,,Telewizja". 12.25 Przerwa. 12.45 i 13.55 Mechanizacja Rolnictwa: ,,Mechanizacja produkcji buraków cukrowych". 13.15 Przerwa. 14.25 i 22.50 Politechnika TV I roku. Fizyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem". 18.00 ,,Geneza powrotu" cz. II. 18.30 TV Kurier Lubelski. 18.45 ,,Giełda piosenki". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr Sensacji: J. Vah — Noc w Klostertal". 21.05 ,,Rozmowy o książkach" 21.20 ,,Twórcy muzyki współczesnej" — Kazimierz Serocki. 21.50 Dziennik. 22.05 Sprawozdanie z międzynarodowych halowych zawodów lekkoatletycznych w Moskwie.

PIĄTEK 27.II.

10.00 ,,Zerwany most" — film fab. pol. 11.20 Przerwa. 14.25 i 22.25 Politechnika TV I roku. Matematyka. 15.30 Przerwa. 16.35 Program dnia. 16.40 Dziennik. 16.50 Dla młodych widzów: ,,Towarzystwo Rzeczy Pięknych". 17.25 ,,Poly i tajemnica siedmiu gwiazd" — film. 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 17.55 ,,Nie tylko dla pań". 18.25 ,,Za kierownicą". 18.55 ,,Mały sufler" — tekst — J. Wittlin. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Mańkowski — ,,Ballada Żołnierska". 21.35 ,,Refleksje". 22.05 Dziennik.

SOBOTA, 28.II.

10.00 ,,Linia telegraficzna" — film fab. USA. 10.55 Dla szkół: (kl. III lic.) Biologia — ,,Wrażliwość roślin i zwierząt". 11.25 Przerwa. 14.25 TV Kurs Rolniczy: ,,Użytkowanie rzeźne owiec". 15.00 Program tygodnia. 15.20 Przerwa. 15.50 Program dnia. 15.55 Reklama ,,Oferty". 16.10 Wszechnica TV: ,,Nasi uczeni" — Tadeusz Pełczyński. 16.40 Dziennik. 16.50 ,,Praski barok" — film czechosł. 17.15 Dla młodych widzów: ,,Konkurs 5 milionów". 18.15 Gra Orkiestra TV Katowice pod dyr. I. Wikarka. 18.35 ,,Pegaz". 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.20 ,,Puchowy śniegu tren" — ,,Stęposzczak show" — program rozrywkowy. 21.20 Dziennik. 21.40 ,,Gentleman z Epsom" — film fab. franc. 23.10 ,,Ella Fitzgerald i Duke Ellington" — film.




PIĄTEK, 20 LUTEGO

8.05 Nowiny. 8.15 Dla dzieci. 8.45 TV barwna. 15.10 Program dnia. 15.15 Dla uczniów. 15.55 dla dzieci. 16.10 ,,Panorama nowin". 16.30 ,,Podlotek koło ciebie". 17.00 ,,Człowiek z karabinem". Film fab. 18.30 ,,Sztafeta nowin". 19.15 Spektakl TV. 21.00 Koncert. 21.20 FIS. 21.45 Nowiny.

SOBOTA, 21 LUTEGO

8.15 Program muzyczny. 8.30 ,,Droga do miasta Kitież". 9.00 Przegląd międzynarodowy. 9.15 ,,Białe i czarne". 9.35 Program muzyczny. 10.00 ,,Obiektyw". 10.45 W eterze ,,Młodość". 11.30 TV barwna. 12.30 TV uniwersytet ludowy. 13.15 Nowiny. 13.20 TV uniwersytet ludowy. 14.00 ,,Na drogach wiosny". 14.20 ,,Szkatułka muzyczna". 14.30 Przegląd tygodnia. 15.00 TV barwna. 16.00 Nowiny. 16.05 ,,Kronika półwiecza. Rok 1924". 17.00 ,,Świat socjalizmu". 17.30 TV barwna. 22.00 FIS. 22.15 Nowiny.

NIEDZIELA, 22 LUTEGO

8.00 ,,Kiosk muzyczny". 8.30 ,,Talon". 9.00 Koncert. 9.50 ,,Gwiazda". 10.25 Sztafeta Leninowska. 10.55 ,,Uchwały grudniowego plenum KC KPZR". 11.15 FIS. 12.15 Dla dzieci. 13.00 TV barwna. 13.30 Koncert życzeń. 14.00 Dla żołnierzy. 14.30 ,,Godzina wiejska". 15.30 Nasze wywiady. 15.45 Program Kiszyniowskiej TV M. in. koncert ludowej mołdawskiej muzyki. 18.45 ,,Siedem dni". 19.30 ,,Gorzkie ziarna". Film fab. 20.55 FIS. 21.15 Nowiny.

 

## ВАРШАЎСКІ БАЛЬ

17 студзеня адбылася ў Палацы Прымасоўскім у Варшаве традыцыйная навагодняя сустрэча членаў і сімпатыкаў БГКТ з варшаўскага аддзела, прысвечаная 51 гадавіне існавання Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. На сустрэчы гуляла звыш 400 асоб. Добры прафесіянальны аркестр Спалучаных цыркавых прадпрыемстваў падтрымоўваў сардэчны настрой прысутных, запачаткаваны ветлівым прывітаннем сакратара аддзела мгр Янкі Заброцкага і білетэрска-парадкавай службы, кіраванай членам прэзідыума Віктарам Стахвіюком, а таксама мілымі вуху і сэрцу народнымі песнямі Рогаўкі, Крупіц, Дубяжына, Гусакоў, Кнарыд і Грабаўца з Бельскага і Сямяціцкага паветаў. Песні, запісаныя фальклорнай экспедыцыяй студэнтаў Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, кіраванай выкладчыкам Інстытута мгр Міколам Врублеўскім, прэзентаваў праз мясцовы радыёвузел з магнітафоннай плёнкі ўдзельнік экспедыцыі Мікола Іванчук. Слухачоў найбольш кранаді песні: «Ой, пуйду я понад лугом...» у выкананні хору сям'і Чапкаў з Рогаўкі, «Ой, ты, калінонько...» у выкананні Ольгі Міхальчук з Гусакоў і песня «Кругом грэблі шумят вэрбы...» у выкананні жаночага хору з Грабаўца.

Дасканала ведзены буфет рэстарана «Залатая качка» дазваляў прысутным набірацца сіл пасля гарачага «Казачка», паўтараемага раз-пораз аркестрам.

Гасцей прымаў і ўшаноўваў гаспадар аддзела-старшыня прэзідыума праўлення мгр інж. Юрка Бусловіч. (мв)

## ОЙ, ТЫ, КАЛІНОНЬКО

Ой, ты, калінонько, ой, ты, зэлёная,
Чом так рано зовяла,
Ой ты молодіцё, ой ты молодая,
Чогош ты так змарніела. (2)

А я молодая, молодая была,
Мэнэ мама оддала
В чужую чужыну, в вэліку дружыну
Мэнэ мама оддала. (2)

Яй пузнэнько лягу, яй ранэнько встану,
Сьняданечко навару
Шчэй мэнэ осудят, шчэй мэнэ огудят,
Што я кепсько навару. (2)

Самі сядут іесті, а мэнэ нэ клічут,
Яй по водіцю пуйду,
Відерце тяжэньке, стэжычка крутая.
Яй водіці прынэсу,

Шчэй мэнэ осудят, шчэй мэнэ огудят,
Што яй нэ хутко прыйду. (2)

Покочу я пэрстэнь, пэрстэнь золотэнькі
По туой, по крутуой горыэ,
Ой котісе, пэрстэнь; пэрстэнь золотэнькі
До матюонкі, до моіе. (2)

А моя матюонка, моя руоднэнькая,
За плечыма у мэнэ,
Еслі тобіе горэ, дітя руоднэ мое
То вэрнісе до мэнэ, (2)

То шчэ покрасуеш, то шчэ погуляеш
Рочок, зо два у мэнэ.

Ніц мніе ны поможэ, моя руодна мамцю,
Ні гуляне, ні краса,
Бо вжэ роспушчона, бо вжэ прыкрытая
Моя русая коса. (2)

**Запісана ў ліпені 1969 г. Валяй Міхальчук, удзельнікам фалькларыстычвай экспедыцыі, кіраванай мгр Міколам Врублеўскім, ад Ольгі Міхальчук (40 г.) з вёскі Гусакі, Бельскага пав.**



**Вось дык дыван! — Сваю творчасць паказвае нам Лёдзя Сідарук з Навасадаў, Гайнаўскага павета.**

**Фота Цаф — Р. Сянько**

РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

## ПЯТРО ПРЫХОДЗЬКА

**Беларускі паэт Пятро Прыходзька нарадзіўся 25 лютага 1920 г. у вёсцы Альшоў, Хоцімскага раёна, Магілёўскай вобласці, у сялянскай сям'і. У 1939 г. паступіў у Мінскі камуністычны інстытут журналістыкі. У час вайны П. Прыходзька быў армейскім палітработнікам і ваенным карэспандэнтам. У 1956 г. скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Член КПСС. Некаторыя яго кніжкі: «Голас сэрца» (1947), «Салдаты міру» (1951), «Ранак над Эльбай» (1952), «Пасля развітання» (1958), «Цёплы каравай» (1960).**

**Віншуем паэта з пяцідзесяцігоддзем з дня нараджэння, а чытачам прапануем некалькі яго вершаў, якія мы выбралі з яго апошняга зборніка «Калінавыя зоры», выдадзенага выдавецтвам «Беларусь» у 1969 г.**

* * *

Вялі з вайны мяне дарогі,
І я бясконца рады быў,
Што хоць крупінку перамогі
Табе, бацькоўскі край, здабыў.
І аднаму яшчэ быў рады,
Што ўсе франты з табой прайшоў
Не для таго, каб дзесь пасаду
Заняць вышэй паміж сяброў.

На вышыню ўзысці і хмура
На ўсіх глядзець з той вышыні.
Не для таго ты вёў праз буры
Мяне, байца, у тыя дні.

Здабыў я славы небагата.
Яе з другімі падзяляў.
Мне ж вечна быць
Тваім салдатам,
Бо ў бітвах сэрцам прысягаў.

### У НАЧНЫМ ПАХОДЗЕ

Ноч такая, што балюча
Праз туман глядзець вачам.
З цемры рукі лес калючы
Апусціў на плечы нам.

Невялічкая палянка,
Тут спыняемся на ноч.
Развялі касцёр. Да ранку
Хай гарыць смалісты корч.

І не скажаш, што дарэмна
Накалоў на сук далонь...
Кожны кінуў па бярэму
З цёмнай ночы у агонь.

Ад агню гарэлі вочы
І прыўсталі стужкі траў.
Нібы цемру гэтай ночы
Наш узвод ў палон забраў.

### ЖУРАЎЛІНЫ АДЛЁТ

У сінь нябёсаў, смутку поўны,
Гляджу з задумлівай зямлі,
Як пакідаюць нашы поймы
З журботным клічам жураўлі.

Яны ляцяць у край далёкі,
Сабе пракладваючы шлях,
І нам лягчэй зрабіць два крокі,
Чым ім адзін крылаты ўзмах.

Ляцяць праз золкія світанні
Да іншага мацерыка.
Але ніхто з іх не адстане
Ў цяжкім шляху ад важака.

У птушак свой закон, вядома,
І свой адлёт, і свой прылёт.
А нас чаго пужае стома,
Ці абцяжарыў крылы лёд?

Мы забываемся пра гэта:
Любы даступны небасхіл,
І дасягнуць жаданай мэты —
Патрэбна толькі пара крыл.

* * *

Калі пайду ў далёкую дарогу,
З табой на час расстануся ізноў, —
Ты не выказвай мне сваю трывогу
І не распытвай пра мяне ў сяброў.

Ці лёгка мне было у той дарозе,
Якім я быў там — ціхім ці ліхім,
Спытай пра гэта ў дуба, у бярозы,
Што голлем нас ухутвалі сваім.

Як я смяяўся, ці употай плакаў,
Ці не прыстаў на сцежках баравых —
Байцу не трэба сведак аніякіх.
Зямля — адна ёсць сведка для усіх.

Калі ж вярнуся
светлым днём ці ноччу,
Цяжкія рукі пакладу на стол, —
Табе пра ўсё мае раскажуць вочы
І на паходнай гімнасцёрцы соль.



Лясная чыгунка. Фота Цаф — Сянько.




## ПАДРУЧНІК „У ДРУЖНАЙ СЯМ'І" ГАТОВЫ!

У канцы лістапада 1969 года пад наглядам Дзяржаўнага прадпрыемства школьных выдавецтваў у Варшаве вышаў з друку падручнік роднай мовы для чацвёртага класа «У дружнай сям'і». Склалі яго Лідзія Гайдук і Мікалай Гайдук.

Падручнік лічыць 364 старонкі і складаецца з сямі частак: Дзень добры, школа!, Радзімы зямля, Вось і зіма, З мінулых дзён, Ідзе вясна, Сяброўства патрэбна народам, Усюды лета, лета...

Кожны раздзел падручніка мае многа ілюстрацый, вершаў, апавяданняў, казак, загадак, прыказак і песень. Многа тут прыкладаў правільнай апрацоўкі такіх відаў пісьмовых прац, як апавяданне, апісанне ці пісьмо. Дапамагаюць яны настаўніку і вучням правільна пісаць такія працы ў школе і ў час дамашніх заняткаў.

Пад зместам кожнага літаратурнага твора, змешчанага ў падручніку, выступаюць метадычныя ўказанні ў форме пытанняў. Служаць яны для лягчэйшага азнаямлення вучняў са зместам твора, яго ідэйнага сэнсу, ці для вываду з яго зместу выхаваўчых праблем. Правільная пабудова гэтых пытанняў прыводзіць дзяцей да пошукаў правільных адказаў, да выказвання сваіх думак, ці да стварэння самастойных сітуацый і г.д. Тэматыка твораў вельмі разнастайная, багатая па свайму зместу і вялікай колькасці выхаваўчых момантаў. Згодна яна з асноўнымі задачамі праграмы навучання. Актуалізуе яна кожную пару года, розныя дзяржаўныя і школьныя ўрачыстасці.

Наступнай часткай падручніка з'яўляецца «Слоўнік» труднейшых слоў. Пабудова яго вельмі карысная для вучняў таму, што хутка могуць адшукаць патрэбныя ім да паяснення словы. У пачатку слоўніка выступаюць загалоўкі твораў, потым трудныя словы, складзеныя ў алфавітным парадку, паясненні да слоў і нумары старонак, на якіх гэтыя словы выступаюць. Такі слоўнік дапамагае вучням самастойна працаваць над зместам твора.

Па слоўніку складзены «Адгаданкі» да загадак. Гэтая частка падручніка дапамагае вучням праверыць іх адказы да загадак. Заключае яна старонку, на якой змешчана загадка і правільны адказ на кожную з іх. Такая форма часткі падручніка таксама вельмі карысная для вучняў, якія свабодна могуць праверыць свае веды ці на ўроках, ці то ў час хатняй працы.

«Змест» як апошняя частка падручніка выдзяляе ўсе паасобныя раздзелы яго. Складаецца з чарговага парадку твораў, іх аўтараў і нумараў старонак. Дапамагае яна вучням хутка знайсці патрэбны загаловак і старонку твора.

На асаблівую ўвагу ў падручніку заслугоўвае апрацаванне граматычнага і арфаграфічнага матэрыялу. Тут вельмі трапна звязваюцца з сабой тэарэтычныя даведкі з практычнымі заданнямі, якіх ёсць многа да выбару. Вялікую карысць прыносіць гэтая частка для ціхай працы з вучнямі, асабліва ў спалучаных класах.

Так, ахарактарызаваная мною кожная частка падручніка дае амаль цэлы вобраз добрай прыдатнасці яго ў час рэалізацыі праграмы навучання. Выдатная пабудова гэтага падручніка дае магчымасць лёгкага карыстання ім як для настаўнікаў, так і для вучняў. Кожная частка апрацавана вельмі старанна і дакладна. Правільнае карыстанне гэтым падручнікам дасць вялікія эфекты ў дасягненні добрых вынікаў навучання і ў поўнай рэалізацыі прыграмы навучання.

Шкада, што Дзяржаўнае прадпрыемства школьных выдавецтваў не змясціла ў падручніку каляровых малюнкаў, якімі яшчэ больш зацікавіла б дзяцей.

**Вера Рышчук,**
**кіраўнік Павятовага метадычнага цэнтра ў Бельску**



 

# ШТО ЧУВАЦЬ У НАШЫХ СЯЛЯН

Хлебаробы Беластоцкага ваяводства не маюць за што хваліць мінулы год. Быў ён худы. Так прынамсі сцвярджаюць ваяводскія ўлады і пры гэтай нагодзе спасылаюцца на наступныя прычыны:

а) Зімой было мала снегу, азіміна не мела натуральнай аховы перад маразамі.

б) На прадвесні выступілі гвалтоўныя змены тэмпературы між днём і ноччу, вымерзла канюшына і рапс, не абышлося без страт у пшаніцы і жыце.

в) Летняя засуха ў многіх раёнах не толькі высушыла ярыну і бульбу, але адначасова перавярнула дагары нагамі нармальны ход палявых работ. Амаль ніхто, для прыкладу, не змог пасеяць паплёнаў. Доўгатрывалая засуха знішчыла таксама пасбішчы. Усё гэта разам абмежавала запасы корму для жывёлы. Дык сяляне прадавалі цялят і парасят, збывалі дарослыя штукі, стан жывёлагадоўлі не павялічваўся так, як гэтага патрабавала планавая гаспадарка.

У сельскай гаспадарцы страты аднаго года пакідаюць пляму на наступных гадах. Будзем адпрацоўваць іх і ў гэтым 1970 годзе. План прадбачвае, што на працягу гэтага ж года на кожных сто гектарах земляных угоддзяў знойдзецца толькі 48 штук рагатай жывёлы. Малавата. Да сярэдняга дзяржаўнага ўзроўню не хопіць нам яшчэ амаль 14%.

На аснове мінулагодніх вынікаў спецыялісты па сельскай гаспадарцы прадбачваюць, што ўраджай у гэтым годзе, на жаль, будзе яшчэ меншы — 18,7 цэнтнераў збожжа з аднаго гектара.

Трэба аднак нам і перш за ўсё сялянам пажадаць, каб гэтыя песімістычныя прагнозы не збыліся. А пажаданні такія маюць сваю аснову. На звыш 25 кілаграмаў хімічна чыстага рэчыва (NPK) — павялічваецца сярэдняя норма прымянення штучных угнаенняў на 1 га поля. Упершыню набліжаецца яна да ста кілаграмаў.

На далейшае развіццё матэрыяльных асноў сельскай гаспадаркі ваяводскія ўлады прызначаюць амаль 800 мільёнаў зл. Асноўная частка гэтых грошай пойдзе на патрэбы ПГР-аў і далейшую меліярацыю сенажацяў. За кошт 279 мільёнаў зл. будзе змеліяравана звыш 14 800 га зялёных угоддзяў, амаль такая самая плошча будзе ўзарана і засеяна высокаякаснай травой. На 8863 гектарах поля правядзецца дрэнаванне. Звыш 100 вёсак атрымае электрычнае святло. Такім чынам, на Беласточчыне ўжо толькі нейкіх 15—16% вёсак застаюцца пры газоўцы.

Столькі ў асноўным прызначаецца на падтрымку гаспадароў. А чаго ўлады спадзяюцца ад іх? Перш за ўсё спадзяюцца, што змогуць яны выпрадукаваць у сваіх гаспадарках амаль адзін мільён 70 тысяч тон збожжа і прадаць яго дзяржаве не менш 200 тысяч тон, што бульбы накапаюць амаль 3,5 мільёна тон і даставяць на пункты скупу звыш 350 тысяч тон, што сена накосяць звыш 1 мільёна 100 тысяч тон, а гэта дазволіць ім так карміць свае кароўкі, каб на продаж назбіралася звыш 330 мільёнаў літраў малака.

Год 1970 будзе цяжкі для сялян. Аднак мы, засыпаныя зараз па вушы снегам, можам з надзеяй чакаць лета. Бо толькі пасля жніў хлебароб упэўнена можа сказаць, як яму пашанцавала.

Прадстаўнікі сельскагаспадарчых устаноў, партыйныя дзеячы і актывісты асабліва шмат увагі адводзяць зараз сялянскім справам. Ад позняй восені мінулага года ва ўсіх вёсках Беласточчыны працавалі і яшчэ працуюць калектывы сельскагаспадарчых спецыялістаў. Гэтая важная акцыя праводзіцца ўжо паўторна. Сельскагаспадарчыя спецыялісты не абмінулі ані аднаго сялянскага панадворка, гутарылі з кожным гаспадаром, кожнага распытвалі пра яго цяжкасці, пра метады гаспадарання, кожнаму раілі, што рабіць, каб было лепш.

**В. Рудчык**

Пачатак на стар. 1

# СУСЕДЗІ

Другі напрамак: культурна-асветныя сувязі. Самадзейніцкі калектыў песні і танца з Наваградка, які ў мінулым годзе наведаў Беласточчыну, аж сем разоў выступаў з канцэртамі ў Беластоку і ў іншых мясцовасцях нашага ваяводства. Канцэрты гэтыя карысталіся вялікім поспехам.

У лістападзе 1969 года дакладчыкі з Гродна ў шасці мясцовасцях Беласточчыны выступалі з дакладамі: «Ленін і Беларусь», «Геройства беларускага народа ў час другой сусветнай вайны».

Да гэтай галіны трэба залічыць таксама частыя ўзаемныя візіты беластоцкіх і гродзенскіх спартсменаў.

І трэці напрамак: афіцыйныя партыйна-дзяржаўныя кантакты. У сувязі са святкаваннем 25-ай гадавіны народнай улады ў нашай краіне ва ўрачыстасцях, наладжаных з гэтай нагоды, у 19-ці паветах прынялі ўдзел двух-трохасабовыя дэлегацыі паасобных партыйных і дзяржаўных устаноў Гродзеншчыны.

Ва ўрачыстасцях з нагоды 25-ай гадавіны МО таксама прымалі ўдзел дэлегаты гродзенскіх міліцыянераў.

З гэтага няпоўнага пераліку відаць, што нашыя прыгранічныя сувязі ахопліваюць усе галіны гаспадарчага і грамадскага жыцця. У іх аснову — ленінскі прынцып дружнага сужыцця народаў, раздзеленых дзяржаўнымі межамі.

**М. Нурэцкі**



**Граніца насцеж. Дэлегацыя з Пружан пераходзіць дзяржаўную мяжу, дзе яе чакаюць сардэчныя сябры з Гайнаўкі.**

**Фота Цаф — Сянько**

# КІРУЮЦЬ СКРОЎБА З АПУНІКАМ

Нядаўна пісалі мы ў «Ніве», што наша ініцыятыва арганізацыі ў Крынках малога музея накшталт Дома Памяці знайшла шырокую падтрымку з боку мясцовага актыву і ваяводскіх улад. Асабліва зацікавіліся гэтай справай Музей рэвалюцыйнага руху ў Беластоку і дырэкцыя Беластоцкіх гарбарняў. Гэта яны даюць найбольшую падтрымку арганізацыйную і перш за ўсё грашовую.

Другога лютага г. г. арганізаваўся ў Крынках грамадскі камітэт па арганізацыі Дома Памяці, які складаецца з трынаццаці прадстаўнікоў зацікаўленых нашай ініцыятывай устаноў ды арганізацый. Старшынёю камітэта выбраны **Іван Скроўба,** першы сакратар грамадскага камітэта ПАРП у Крынках. Намеснікам старшыні з'яўляецца старшыня прэзідыума мясцовай ГРН **Яўген Апунік.** Членамі камітэта выбраны, між іншым, **Тадэвуш Рагоўскі,** дырэктар Беластоцкіх гарбарняў, **Барыс Нікіцюк,** дырэктар Музея рэвалюцыйнага руху.

Дом Памяці ў Крынках вырашылі адкрыць першага мая г. г. у гонар свята працоўных і свята гарбароў. У Доме гэтым будуць перш за ўсё экспанаты, якія пакажуць вялікія рэвалюцыйныя традыцыі мясцовага пралетарыяту і сялянства. Гэта тым больш будзе ў свой час, паколькі крынкаўскія гарбары святкуюць сёлета 90-годдзе першых гарбарняў у мястэчку.

Крынкаўскі камітэт і рэдакцыя «Нівы» просяць усіх, хто мае якія-кольвек дакументы: фатаграфіі, лістоўкі, газеты, пісьмы старыя, расказваючыя аб фактах рэвалюцыйнага руху ў Крынках, — дасылаць іх у рэдакцыю «Нівы». З такіх дакументаў будзе створаны Дом Памяці ў Крынках — першы ў Беластоцкім ваяводстве. (ся)

Пачатак на стар. 1

# ...І НАШ ПАВЕТ АДРОДЗІЦЦА

Школа ў Міхалове вялікая, усіх настаўнікаў працуе каля 70 асоб. Пару год таму назад вучылі ў пачатковай школе беларускай мове, цяпер зліквідавалі».

**Ірына Буслоўская, Міхалова**

«У нас няма настаўніка беларускай мовы. У мяне пытанні, ці не можна даць у Міхалова настаўніка? Пан Зіневіч добры чалавек, але ўжо на пенсіі і слабы здароўем. А пры тым ён настаўнік рускай мовы, а не беларускай. Яму на прычэпку далі беларускую мову. У школе мае ён толькі некалькі гадзін, а пяць месяцаў ужо хворы і ўвогуле не працуе. Урокі беларускай мовы ставяцца заўсёды на апошнюю гадзіну і гэта таксама нядобра. Вядома, як многа можа зрабіць настаўнік. Даць толькі сюды добрага маладога настаўніка, і справа паправіцца. Ніхто не перашкаджае, але не мае Міхалова фаховай сілы, і гэта перашкода найбольшая».

**Янка Азябла, Пянькі**

«Што было, то прайшло. Трэба цяпер узяцца і аднова працу пачаць. А сілы ў нас яшчэ ёсць. Гарадок адрадзіўся, Міхалова, думаю, таксама адродзіцца. Праўда, трэба сапраўды Міхалову добрага настаўніка мовы. Інструктар на наш павет каб быў аб'ектыўны, справядлівы, работу каб вёў кругом, ва ўсім павеце. Я веру, што наш павет адродзіцца».

**Вера Леўчук**



# НОВЫ МІТРАПАЛІТ ПОЛЬСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ

Ад 21 да 25 студзеня г. г. у Варшаве адбывалася сесія Сабору епіскапаў Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Сабор выбраў новага мітрапаліта, якім стаў датыхчасовы кіраўнік уроцлаўска-шчэцінскай епархіі епіскап Васіль Дарашкевіч. Варта адзначыць, што новы кіраўнік Польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы беларус і паходзіць з Беластоцкага павета.

22 студзеня г. г. у мітрапалітальным саборы адбылася кансеграцыя свяшчэнніка архімандрыта Аляксея Ярашука на люблінскага епіскапа, суфрагана варшаўска-бельскай архіепархіі.

## ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ




Шчыт у сучаснай падляшскай хаце з'яўляецца найбольшай плошчай архітэктурнай народнай разьбы. Упрыгожванні шчытоў пачаліся тут у канцы XIX стагоддзя дзякуючы наладжанню лесапілення падоўжнай пілкай. Сяляне доўга неахвотна ўводзілі драўляныя шчыты не толькі з-за адсутнасці адпаведных піламатэрыялаў, але, як гавораць... «драўляны шчыт разам з дахоўкай празмерна награвае гару (паддашша) або яе хутка ахаладжвае і таму не дае магчымасці адпаведна яго выкарыстаць для перахоўвання сезонных прыладаў працы з дрэва, засоленага мяса, гародніны, садавіны, а таксама не можа служыць месцам адпачынку пасля працы...» З часам аднак эстэтычныя матывы перамаглі прызвычаенні, і зараз амаль ва ўсіх хатах на шчытах нейкія дэкарацыйныя элементы выступаюць. Сведчыць аб гэтым факт, што на выкананых мною звыш 300 фотаздымках народнай разьбы 114 закранаюць у цэласці або часткова шчыты.

На кампазіцыйную цэласць мастацкага афармлення шчыта складаюцца: укладка шалёўкі, упрыгожанне акенца, ліштвы над акенцамі, вятровак, падшчытнікаў і падстрэшнікаў.

У старшых хатах дошкі прыбіваліся ўздоўж шчыта да кроквы, да венткі, якая звязвае крокву на вышыні акенца, і да падшчытніка, а затым шаляваліся такімі ж дошкамі або тонкімі ліштвамі. На месцы сучаснага акенца вырэзвалася дзірка ў форме геаметрычных фігур. Шчыты такія зараз выконваюцца толькі з тыльнага боку хаты. Ад вуліцы яны маюць даволі складаную ўкладку. Але ва ўсіх выпадках канструкцыя даху і трохвугольная канфігурацыя шчыта змушае (зразумела, пры рацыянальным выкарыстоўванні піламатэрыялаў) да выдзялення на плошчы шчыта чатырох сектараў: надакенкавай часткі шчыта ў форме трохвугольніка, сіметрычных абочын — таксама трохвугольнікаў — і цэнтральнай часткі, на якой памяшчаецца акенца. Тыповым прыкладам можа служыць фотаздымак шчыта хаты Івана Аляксеюка з вёскі Паўлы. У залежнасці ад творчай фантазіі майстра кожны з гэтых сектараў перадзяляецца яшчэ некалькімі тонкімі рамкамі, на меншыя часткі. Да рамак прымацоўваецца пад рознымі вугламі і ў розных напрамках, але заўсёды сіметрычна, шалёўка.

Сектар шчыта над акенцам мае найчасцей узор елачкі (у нашым выпадку — 88%), які дасягаецца шляхам укладкі шалёўкі, наўскос ад цэнтра пад вуглом 45° (гл. фотаздымак шчыта хаты Івана Кананчука з вёскі Сацы, Гайнаўскага павета, выкананага ў 1928 г.). Але ў той жа вёсцы шчыт хаты Паўла Гусакова ўкладзены ў форме ромба, а ў Зубаве, Бельскага павета — шчыт хаты Уладзіміра Свентахоўскага ўкладзены супрацьлеглымі сабе елачкамі. У



**Шчыт хаты Хведара Мікалаюка з вёскі Снежкі, Бельскага пав.**



**Шчыт хаты Рыгора Андрэюка з вёскі Целушкі, Бельскага пав.**



**Шчыт хаты Івана Аляксеюка з вёскі Паўлы, Бельскага пав.**

 

### ЧАМУ ГАЙНАЎШЧЫНА АПОШНЯЯ?




Ян Анджэюк з'яўляецца кіраўніком бюро аддзела геадэзіі прэзідыума ПРН у Гайнаўцы. Сёння прадстаўляем яму слова ў нашай дыскусіі аб сельскагаспадарчых справах Гайнаўскага павета.

— Гайнаўскі павет, — сцвярджае Ян Анджэюк, — мае перш за ўсё сельскагаспадарчы характар. Звыш 73% насельніцтва працуе тут выключна на зямлі. Толькі нязначная колькасць гаспадароў пастаянна або сезонна наймаецца да працы на нейкіх прадпрыемствах і ва ўстановах.

Па якасці глебы (паказчык бонітацыі) Гайнаўскі павет займае 16-тае месца ў ваяводстве. Калі ў ваяводстве глебы V-га і VI-га класаў налічваецца 50,6%, дык у Гайнаўскім павеце — аж 60,9%. Толькі грамады: Новаберазова, Чыжы, Старакорнін, Ласінка і Дубіны — маюць у нас нязначную перавагу лепшай зямлі. Адначасова ў грамадзе Палічна глеба V-га і VI-га класаў займае аж 94,7% поля, у грамадах: Чаромуха — 92,9%, Арэшкава — 87,4%, Семяноўка — 77,7%. Калі гэтыя лікі пераўтварыць у рэчаіснасць, дык убачым жоўценькі пясок, жвір і мізэрныя пералескі.

А да гэтага вобразу трэба дадаць яшчэ цераспалосіцу. Гаспадары 35 вёсак і звыш 20 пасёлкаў усё яшчэ, бы зайцы, скачуць па загончыках. Цераспалосіца займае ў нас амаль 22.500 гектараў. Да нядаўна было яе ў два разы больш. Вось у вёсках Белкі і Сакі ў Трасцянскай грамадзе кожны селянін яшчэ да мінулага года меў гаспадарку ў 80—120-ці загончыках, велічыня якіх не перавышала 9 сотак.

Дык як пры такіх умовах думаць аб нейкіх сучасных метадах апрацоўкі зямлі, як уводзіць на поле хаця б найбольш простую тэхніку, калі нават з касой на такім загончыку не вельмі ёсць дзе размахнуцца.

Цераспалосіцы праз 2—3 гады ў нас ужо не будзе. Але пераход на хутары, як кожная змена, заўсёды патрабуе шмат клопатаў і коштаў. Трэба часу, каб пачаць нармальна і эфектыўна гаспадарыць пры новых умовах, каб гаспадарку на новым месцы давесці да высокага ўзроўню.

Амаль 96% зямельных угоддзяў Гайнаўшчыны знаходзіцца ў руках аднаасобнікаў. Хто яны, гэтыя аднаасобнікі, якія з іх гаспадары?

Вынікі праведзенай нядаўна анкетызацыі паказваюць, што радавацца няма чаго. Сярод 10 223 праверaных аднаасобніцкіх гаспадарак звыш 3.600 гаспадароў разменяла ўжо сёмы дзесятак свайго жыцця. Звыш паўтысячы гэтых гаспадароў-дзядуляў не мае ў сваёй сям'і нікога, хто пераняў бы ад іх гаспадарку. Для 2.500 тысяч гаспадарак пагражае поўны эканамічны заняпад. Яны не толькі не прыносяць ніякай карысці для грамадскасці павета і ваяводства, але не ў сілах забяспечыць уласных патрэб. 217 гаспадароў хацела б ужо зараз аддаць сваю зямлю дзяржаве ў замен за дзяржаўную пенсію. Ды на добрую справу трэба было б ад усіх гэтых гаспадароў, якіх я толькі што пералічваў, адабраць зямлю і перадаць яе ў дзяржаўны фонд. Склалася б з гэтага звыш 15.500 гектараў. А гэта 16,3% усіх зямельных угоддзяў у павеце.

Пераняць можна, ёсць дзеля гэтага праўныя, нават сеймовыя пастановы. Толькі што рабіць з гэтай зямлёй? Няма, на жаль, пакуль што магчымасці, каб яе эфектыўна загаспадарыць. Вось у вёсках Белкі і Сакі, пра якія я ўжо гаварыў, накапілася 271 га дзяржаўнага фонду зямлі, але што з таго, калі гэтая зямля знаходзілася аж у 2.146 дзялянках.

Які ж з гэтага выхад?

Прэзідыум ПРН у Гайнаўцы пастанавіў усе гэтыя праблемы неяк вырашыць да канца 1975 года, перш за ўсё на аснове вынікаў праведзенай анкетызацыі. Там, дзе яшчэ зямля знаходзіцца ў цераспалосіцы, перш за ўсё з агульнай плошчы выдзяляем: гаспадаркі, якія неабходна пераняць у замен за пенсію, гаспадаркі эканамічна заняпалыя і гаспадаркі, у якіх даўгі перад дзяржавай перавышаюць вартасць зямлі. Імкнемся да таго, каб дзялянкі дзяржаўнага фонду зямлі згуртаваць у адным абшары. Тады лягчэй будзе нам знайсці спосаб яго загаспадарання, тады таксама створацца болей спрыяльныя ўмовы, каб у шырэйшым маштабе пераймаць іншыя занядбаныя гаспадаркі ў дзяржаўны фонд зямлі.

Зямля ж — аснова ўсіх поспехаў у сельскай гаспадарцы. Правідловае яе загаспадаранне дазволіць Гайнаўскаму павету дагнаць перадавыя паветы ў сельскагаспадарчай прадукцыі. Так я прынамсі мяркую.

## МЕСЯЦЫ КУПЛІ МІНЕРАЛЬНЫХ УГНАЕННЯЎ

Штогод паўтараецца такая сітуацыя, што ўвесну гаспадару надта цяжка купіць патрэбных мінеральных угнаенняў. Вядома — можна вінаваціць гандаль, вінаваціць колькі ўлезе! Аднак ёсць і другая праўда такой сітуацыі. Менавіта, тая праўда, што ўвесну ўсе і раптам і адразу хочуць накупіць усяго, чаго трэба! Мяшкі гнаёў тых з неба не падаюць, трэба іх давозіць з цэнтральных складаў. І таму ўсё адбываецца, як на кепскім вяселлі, калі ўсе хочуць піць, а няма гарэлкі.

Мінеральныя ўгнаенні трэба купляць загадзя, так, як цэмент на пабудову хаты. На кожным павятовым складзе, на кожным грамадскім складзе ляжаць цэлыя тоны мінеральных угнаенняў. Купляюць мала: хто на малыя грошы наракае, хто на вялікі снег наракае, хто на хворага каня наракае. Карацей кажучы, ніхто не помніць, што чаўплося ўвесну мінулую, пазамінулую і г. д. Напрыклад, у такім Гайнаўскім павеце распрадана дагэтуль усяго каля восьмай часткі мінеральных угнаенняў, якія звычайна будуць распрададзены ўвесну. Яшчэ горш у Бельскім павеце.

Наракалі гаспадары з вёскі Вялікія Азяраны, што па некалькі разоў ездзілі яны ў Крынкі, на склады мясцовага ГС-у, каб купіць патрэбныя мінеральныя ўгнаенні. Наракалі даўно таму назад, бо недзе ў чэрвені месяцы 1969 года. Нядаўна давялося мне пабываць у Крынках, дзе, аказалася, мала купляюць цяпер мінеральных угнаенняў. Праз паўтара-два месяцы зноў будзе завоз перад складамі, зноў будуць сваркі і лаянкі, бо тады ўсе захочуць купляць.

Думаючы так над усім гэтым, часамі дзіва бярэ, як гэта людзі мала вучацца на сваіх перажываннях ці справах. У Дуброве і Саколцы, у Бельску і Гайнаўцы, у Беластоку і Сямяцічах ёсць на складах усе патрэбныя мінеральныя ўгнаенні. У таргoвы дзень, у панядзелак ці сераду, чацвер, можна прывезці саньмі з кірмашу ўсё. (ся)

## БУДОВЫ 1970 ГОДА

Гаспадарчы план для Беластоцкага ваяводства, які зацвердзілі радныя на сваёй апошняй сесіі, пастанаўляе, што за грошы з цэнтральнага, дзяржаўнага бюджэту будуць у 1970 годзе будавацца наступныя прамысловыя аб'екты: шоўкавы камбінат у Ломжы, філіял беластоцкай фабрыкі жалезных прылад у Бельску, друкарня і шклозавод у Беластоку.

Апрача гэтага з ваяводскага бюджэту радныя выдзялілі грошы, між іншым, на будову: другой керамічнай фабрыкі ў Ляўкове на Гайнаўшчыне, прадпрыемства будаўляных матэрыялаў і водаправода ў Саколцы, павятовай бальніцы ў Сямяцічах і Лапах, музычнай школы і гасцініцы ў Беластоку.

Агулам на будаўляныя капіталаўкладанні ў ваяводскім бюджэце на 1970 год адводзіцца сума аднаго мільярда 387 мільёнаў 800 тысяч злотых. У параўнанні да 1969 года гэтыя капіталаўкладанні павялічваюцца на звыш 4%.

Згодна з пастановамі II пленума Цэнтральнага Камітэта ПАРП планаваныя капіталаўкладанні прадбачваюць так званае селекцыйнае, укірункаванае развіццё Беластоцкага ваяводства. Таму прыйшлося адступіць ад будовы некаторых, планаваных раней аб'ектаў.

(вр)

Бельскім павеце сустракаюцца накладаныя надакенкавыя сектары, якія выстаюць над ніжняй агульнай плошчай шчыта каля 10 см. (гл. фотаздымак шчыта хаты Хведара Мікалаюка з вёскі Снежкі, выкананага ў 1958 г.), а таксама шалёўка, замацаваная ў форме сонечных праменняў, некалькіх ромбікаў або елачак.

Абочыны шчыта ўкладваюцца таксама ў форме елачкі і складаюць быццам працяг надакенкавай кампазіцыі. У некаторых выпадках шалёўка ўкладваецца роўналегла да вятроўкі (Марыя Швайко, Паўлы, Бельскага павета), перадзельваецца на два і больш трохвугольнікаў (Васіль Яканюк з вёскі Канюкі, Бельскага павета, Данеля Рудзь, з вёскі Нетупа, Сакольскага пав.), а ў некалькіх выпадках абочыны адсутнічаюць зусім (Андрэй Іванюк з вёскі Жуткова, Беластоцкага пав., Хведар Сегень з вёскі Трывежа, Гайнаўскага пав., Іван Рубчэўскі з вёскі Церамкі, Гайнаўскага пав. і іншыя).

Асноўнае месца ва ўпрыгожанні шчыта займае яго цэнтральны сектар, які амаль ва ўсіх выпадках мае форму чатырохвугольніка, перадзеленага на больш дробныя часткі: елачкі, квадрацікі, ромбікі, трохвугольнікі. Усе гэтыя геаметрычныя фігуры выконваюцца дзякуючы замацаваным шалёўкам аднолькавай шырыні і ўзору, таксама пад вуглом 45°. Замацоўванне на шалёўцы дадатковых ромбікаў ці іншых фігур сцверджана толькі ў трох выпадках (шчыты Васіля Яканюка з вёскі Канюкі, Паўла Гусакова з вёскі Сацы і Мікалая Анаціка з вёскі Аўгустова). Некаторыя майстры замацоўваюць шалёўку на раме ў стыкі, іншыя — пакідаюць 5-сантыметравы хрыбет рамы, на якой пілкай вырэзваюць зубчыкі. Яшчэ менш сустракаецца пакрыванне стыкаў упрыгожанымі ліштвамі (гл. чаргова папярэднія фотаздымкі шчытоў хат Івана Кананчука і Паўла Гусакова, а таксама вышэй замешчаны Рыгора Андрэюка).

Ул. Юзвюк


Шчыт хаты Уладзіміра Свентахоўскага з вёскі Зубава, Бельскага пав.


Шчыт хаты Паўла Гусакова з вёскі Сацы, Гайнаўскага пав.


Шчыт хаты Івана Кананчука з вёскі Сацы, Гайнаўскага пав.

### У ПОШУКАХ ШЧАСЦЯ

## ЛЯ МЕЖАЎ КРАІНЫ ПАРЛАНДЫІ

П'яная вясельная ноч. Грымяць тосты, пераліваюцца песні, потым музыка і п'яныя танцы да рання, да поўнай знямогі ног, шуму ў вушах, ды галаўнога болю. Над ранкам клеяцца вочы, угінаюцца ногі, лянівыя, п'яныя думкі слізгаюцца па паверхні мозгу. Сядаю ў куце вясельнай хаты, каб адпачыць у салодкай, пасіўнай бяздзейнасці пры акампаніяменце людскога гоману і гучных акордаў вясельнай музыкі.

Усяночны гоман, рытм акардэонаў, пах папяроснага дыму і поўныя чаркі з гарэлкаю — усё гэта ўводзіць паступова ў свет зусім іншы ад штодзённага. Людзі пачынаюць цалавацца і гаварыць сабе ўзаемна тое, чаго заўтра, у звычайным штодзённым свеце, будуць моцна саромецца.

Сёння аднак, у свеце вясельнага ашаламлення, зусім натуральнымі з'яўляюцца ўсялякія, найбольш шчырыя інтымнасці.

У вясельным ашаламленні знаходзімся блізка чароўнай краіны шчасця Парландыі, якая знаходзіцца ў кожнага з нас глыбока пад чэрапам, — там, дзе не сягаюць нашыя трывяльныя клопаты і мітусня нашай шэрай штодзённасці. Варта прыкрыць вочы і больш пільна ўслухацца ў вясельны гоман і гул, каб свет штодзённасці знік зусім і краіна Парландыя сталася амаль фізічнай рэчаіснасцю.

Вось грымнула п'яная песня. Маладзіцы заспявалі нейкую рускую старыну. І паплыла песня ракою:

Круглый месяц плывёт над рекою,
Всё в обьятьях ночной тишины...

Знікае ўсё — нават вяселле, нават малады і маладая, нават сама песня і яе банальны змест. Адкрывае свае таямніцы ўсяленная. Знікае зусім фізічны час, і я вяртаюся да свайго ранняга дзяцінства. Маю дзевяць год, у хаце п'яны натоўп. Іграе музыка, сяброўкі маёй цёткі — паненкі спяваюць:

Круглый месяц плывёт над рекою
Всё в обьятьях ночной тишины...

Знаходжуся адзін у невялікай спальнай каморцы. Зашыўся ў пасцель і доўга плачу. Мацярынскія падушкі прасякнулі дзіцячымі слязьмі — слязьмі радасці і суму. І радасць і сум зусім беспрадметныя, але амаль бязмежныя, бяздонныя, ахопліваюць усю ўсяленную. Плачу празмернасцю пачуццяў дзіцячай душы, выкліканых гэтым цудам чалавечай культуры — песняй. Знікае ўсялякае размежаванне паміж гадамі, знікае розніца паміж мною былым і сённяшнім мною.

І толькі дзякуючы балючаму намаганню волі, магу ўсведаміць, што маё «я» — раздробленае, разбітае гадамі, тысячамі, дзесяткамі тысяч дзён і падзей; што за гэты час засвоіў я мора слоў, паняццяў, ведаў. Аднак гэтыя словы, паняцці і веды выдаюцца так мала істотнымі, безнадзейна плыткімі, прасякнутымі карыслівасцю і хлуснёй, што ўсе яны — разам з часам, прысвечаным на іх награмаджэнне — выдаюцца дурным, нядобрым сном. Адзінай сапраўднай рэальнасцю з'яўляецца гэтая песня і гэты дзіцячы плач, гэтыя слёзы шчасця, увабраўшага ў сябе сум усёй ўсяленнай дзеля таго, каб перамагчы яго пераўтварыць у песню.

Дакучлівая, як аса, думка: чаму ніколі не спяваў я гэтай песні? Чаму я наогул так мала спяваў? Чаму змарнаваў я сваё жыццё, займаючыся ўсім іншым, толькі не гэтым? Калі б займаўся я толькі гэтым, можа, кожны мой дзень, кожная мая гадзіна была б космасам, несмяротнасцю, вечнасцю.

Прабуджаюся з ашаламлення. Ясна. Мой спеў (амаль рык каровы) — прыкры для мяне самога, не гаворачы ўжо аб іншых. Трэба думаць, як вярнуцца дахаты. Трэба думаць аб цяжкім дні, аб цяжкай працы з галаўной боллю і пяском пад вейкамі. Дзіўная краіна Парландыя, дзе няма ні часу, ні смерці, ні зайздрасці, ні нянавісці, дзе пануе песня і бязмежная любоў да ўсяго свету — адплывае далёка, далёка, на самыя акраіны памяці і свядомасці. Тое, што здавалася нядаўна нядобрым сном — звычайнае, шэрае жыццё — становіцца цяпер няўхільнай, фізічнай рэальнасцю.

Аднак да межаў Парландыі мы яшчэ вернемся. Паварот туды з'яўляецца духовай неабходнасцю чалавека. Вяртаемся да яе межаў, рызыкуючы здароўем, растратай сродкаў, непрыемнасцямі ў сям'і і ў месцы працы. Вяртаемся ўпарта, каб знаходзіць за кожным разам пацвярджэнне існавання гэтай дзіўнай краіны, дзе ўсё інакш, чымсьці ў нармальным нашым жыцці.

Рыгор Паўлюк



 

 

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ЗАЯЦ

Прайшлі святы, якія без заечыны не былі б святамі, прамінуў карнавал, даўно скончыўся сезон палявання на зайцаў. Аднак жонкі паляўнічых і тыя, найбольш запаслівыя гаспадыні, яшчэ, напэўна, трымаюць аднаго-двух зайчыкаў на балконе, ці ў хляве, каб падаць яго цяпер як вялікую ласушку.

Заечыну трэба любіць. Тыя гаспадыні, дамачадцы якіх гэтае мяса любяць, падрыхтоўваюць яго на розныя спосабы. Адны ўважаюць толькі паштэт з зайца, іншыя любяць смажыць яго (цомбар) у духоўцы і пасля падаваць з бурачкамі, ёсць смакошы, якія дылектуюцца зайцам, тушаным у віне, або ў смятане.

Наш спосаб вельмі просты, але мяса зайца атрымліваецца вельмі далікатнае і смачнае.

З павісеўшага (прынамсі 3 тыдні ў халодным і правеўным месцы) і размарожанага зайца трэба старанна зняць скуру. Можна яго з гэтай мэтай зачапіць на гаку, але найлепш, калі адзін трымае зайца за заднія ногі, а другі сцягвае скуру. Скуру трэба надрэзаць вакол ножак (ніжэй калена) і з ўнутранага боку ног, надразаючы яе таксама вакол хваста і адбыту. Узяўшы рукамі, скуру ад ножак трэба асцярожна сцягнуць уніз, дапамагаючы сабе нажом. Пярэднія лапы адразаем і знімаем разам са скурай. Сцягваючы скуру з галавы, трэба адрэзаць вушы і надрэзаць скуру пры вачах.

Пасля гэтага зайца трэба палажыць на стальніцы (падлажыўшы пад яго тоўстую паперу), разрэзаць жывот аж да адбыту (асцярожна!), выняць усе ўнутранасці (каля адбыту дапамагаючы сякерай) і выкінуць іх разам з паперай (раю пакінуць сэрца і вантробу — з вантробы трэба выразаць жоўцевы пузыр). Наогул можна выкінуць і галаву.

Цяпер трэба зайца пасячы прыблізна на 5 частак (2 сцягна, цомбар і 2 лапаткі) і, вымыўшы мяса дакладна, мачыць яго ў халоднай вадзе (часта яе змяняючы) цэлыя суткі, пакуль мяса не стане белае.

Такім чынам, заяц гатовы да беспасрэднай падрыхтоўкі.

Сячом яго на меншыя кавалкі. 0,25 кг бочку падсмажваем на патэльні, а ў гэтым абсмажваем пасля кожны кавалак зайца. Усё гэта складваем у брытфану. Ізноў на патэльні расскварваем 100 г саланіны, падсмажваем у ёй 150 г нарэзанай каўбасы (найлепш ялаўцовай) і: 0,25 кг нашаткаванай цыбулі, 0,5 кг морквы і па 0,25 кг пятрушкі і сельдэрэю. І гэта кладзем у брытфану. Пасаліўшы ўсё і даліўшы крыху вады, пачынаем на малым агні тушыць зайца.

Так тушыць каля 5-ці гадзін, пакуль мяса не будзе лёгка адставаць ад касцей.

**Гаспадыня**

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Спартыўны касцюм. Фота В. Казлова.




### ДОБРЫЯ КРАКАДЗІЛЫ З ПАГІ

Няма драпежніка больш каварнага, лютага, які не паддаецца дрэсіроўцы і ўтаймаванню, чым кракадзіл. Пра гэта ведаюць многія. Але мала хто ведае пра тое, што ў маленькай вёсачцы Пага на поўначы заходнеафрыканскай краіны Ганы жывуць добрыя кракадзілы, якія асабліва любяць гуляць з дзецьмі. Калі хлопчыку з Пагі захочацца пакатацца, ён бяжыць да невялікай сажалкі ў цэнтры вёскі і вясёлымі крыкамі выклікае з вады кракадзіла. На бераг нехлямажа выпаўзае зубастая пачвара і пакорліва поўзае з дзецьмі на спіне, дазваляе тузаць сябе за хвост і наогул цярпліва трывае ўсе дзіцячыя свавольствы.

Калі заезджы госць хоча паглядзець на ручных кракадзілаў, а ім не хочацца вылазіць з вады, хлопчыкі тут жа прывязваюць да невялікай вяроўкі кураня і падходзяць з ім да сажалкі. Не звярнуць увагі на крыкі хлопчыкаў, да якіх далучаецца піск кураняці, кракадзілы не могуць і выходзяць на бераг. Кураня хутка адцягваюць за вяроўку далей ад велізарнай пашчы, хлопчыкі сядлаюць верхам кракадзілаў і дэманструюць іх здзіўленаму госцю.

Жыхары Пагі расказваюць, што ў даўнія часы паляўнічы Навех, які выпадкова апынуўся ў гэтых месцах, ніяк не мог знайсці вады ў джунглях, каб напіцца. Ён ужо страціў усякую надзею, як раптам убачыў у зарасніках кракадзіла, які павольна поўз. «Значыць, вада блізка», — падумаў Навех і асцярожна пайшоў за кракадзілам, які і вывеў паляўнічага да сажалкі. Гэта месца так спадабалася паляўнічаму, што калі ён ажаніўся, то пабудаваў сабе тут дом. Неўзабаве на беразе сажалкі з'явілася вёсачка Пага. У знак удзячнасці да кракадзіла, які выратаваў Навеха, ён забараніў усім жыхарам вёскі забіваць кракадзілаў, рэгулярна падкармліваў іх і завяшчаў берагчы ўсім нашчадкам.

З таго часу кожны правадыр вёскі лічыцца захоўвальнікам кракадзілаў Пагі. Час ад часу жыхары забіваюць карову, авечку і казу і кормяць жывёлін, якія ўжо больш як сто гадоў жывуць у вялікай дружбе з людзьмі.

**Знаўцы гавораць, што і кракадзілы з заалагічных садоў лёгка асвойваюцца. Кракадзіл, якога прадстаўляем на здымку, разам са сваім апекуном ездзіць машынамі на экскурсіі, купаецца ў возеры і ў штодзённым хатнім жыцці з'яўляецца лагоднай, сяброўскай жывёлінай.**



## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ЗБОЖЖА НА АСФАЛЬЦЕ

У мінулыя часы пра вырошчванне збожжа на асфальце гаварылі толькі сатырыкі і гумарысты. І ўсё ж на асфальце не толькі можна вырошчваць яго, але і атрымліваць... падвойны ўраджай. Праўда, для гэтага асфальт закладваюць пад глебу на глыбіню 60—65 сантыметраў. Вядома, ручная праца сябе не апраўдала б, і інжынер-аграном Кларанс Хансен (ЗША) зрабіў спецыяльную машыну. Яна ідзе па полі, узорвае паласу шырынёю каля метра на глыбіню ў 60 сантыметраў, залівае пад яе вадкі асфальт таўшчынёю тры міліметры і потым акуратна ўкладвае глебу на месца. Палосы асфальту ўкладваюцца шчыльна, пласт глебы становіцца воданепранікальным, і гэта дае магчымасць атрымліваць высокія ўраджаі.

## Літаратурныя гульні

### ТВОРЫ ЯНКІ КУПАЛЫ



Па дадзеных урыўках успомніце назвы твораў Янкі Купалы і ўпішыце іх у адпаведныя клеткі. Як развязку прышліце назвы гэтых твораў.

1. Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты дадому, а гэты, тудэма-сюдэма, начніца касавокая, не вытрымаў, каб людзям не нарабіць у ноч неспакойства.

2. І зышла ты, пяснярка народаў,  
Божы светач жывых пакаленняў,  
У новы край невядомага быту  
Ад жыццёвых няпраўд  
і цярпенняў.

3. Будзеш кужаль ты прасці,  
Будзеш ткаці кросны,  
Выглядаці долі, шчасця  
Ў маладыя вёсны.

4. У маланках перуновых,  
З тулкім томанам грымотаў  
Для вякоў дыктуйце новых  
Нечувалыя ясноты.

5. Ты слухай, паслухай,  
Таварыш і брат:  
Заўсёды наперад!  
Ніколі назад!

6. Мілая моладзь, слаўная моладзь  
Нашай бязмежнай краіны!

7. Сыноў бацька сваіх кліча  
На нараду ў хату,  
А ўрачыста, як бы кліча  
На якое свята.

8. Паміж пустак, балот беларускай  
зямлі,  
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,  
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт  
уцяклі, —  
Удзірванелы курган векавечны.

Адказы просім прысылаць на наш адрас: Redakcja tyg. „Niwa”, Białystok, ul. Wesołowskiego 1. да 5.III.1970 г.

Сярод тых, хто прышле правільныя адказы, разлясуем кніжныя ўзнагароды.

Адказ з 6 нумара «Нівы» ад 8.II.1970 года:

— Мір табе, дарагое дзіця!

— Мір вам, людзі, палі і дубровы!

Мір табе, залатая зямля!..

**П. Глебка «Слова міру».**

За правільны адказ на віктарыну № 4 і 5 кніжныя ўзнагароды выйгралі: З. Ціванюк, Л. Грыц, В. Кардаш, Я. Дудко, О. Грасевіч, Я. Кардаш — Беластоцкі павет; Л. Ярашэвіч — Сакольскі павет; М. Грыгарук, Я. Асташэўскі — Бельскі павет.

ЧЫТАЙЦЕ і РАСПАЎСЮДЖВАЙЦЕ „Нівы”!

## Чвэрць стагоддзя назад




Бралася на поўдзень, калі пачуўся трэск і шамаценне кустоў. За некалькі крокаў ад нас да раўчука падышоў у старой нямецкай ваеннай вопратцы чалавек з двума салдацкімі кацялкамі. Ён прыгнуўся, каб зачэрпнуць вады, і ўбачыў два аўтаматы, нацэленыя на яго.

— Падыдзі бліжэй, — кажу яму па-нямецку.

— Я рускі. Рускі... Громаў маё прозвішча, — спяшаючыся, гаварыў ён па-руску. — Іван Громаў.

— Падыдзі сюды, Іван Громаў. Сядзь тут.

Бразгаючы кацялкамі, ён перайшоў раўчук і апусціўся каля нас на калені.

— Ты хто такі?

— Палонны. Палонны я.

— Што тут робіш?

— Прыйшоў па ваду. Бульбу трэба на абед варыць. Нас тут цэлая група. Дзесяць чалавек. Лес пілуем. Вось там, — паказаў ён рукой.

— Ахова ёсць?

— Ёсць два немцы. Фактычна, адзін. Другі — без зброі. Ён лічыцца майстрам. Паказвае нам, якія дрэвы можна валіць, якія не.

— Вас пускаюць так свабодна хадзіць па лесе?

— А куды дзенешся? Не вернецца адзін — таварышаў расстраляюць.

— Даўно трапіў у палон?

— У сорак другім.

— Што ж нам цяпер рабіць, палонны Громаў?

— Не бойцеся — я не выдам вас. Я ведаю — вы савец... Нашы... — паправіўся ён, — парашутысты. Мы ў лесе знашлі грузавы парашут. Можа, ваш? Там батарэі для рацыі, патроны, гранаты. Усё надзейна схавалі. Спадзяваліся, што, можа, удасца сваім перадаць...

— У вас што ж — хлопцы надзейныя?

— Так. Не ўсе, вядома. За тых, што нядаўна з намі, не магу паручыцца — яшчэ не раскусіў іх.

— Дзе размяшчаецца ваш лагер?

— Каля вёскі Жаргілен.

— Многа палонных?

— Чалавек трыста. А войск кругом поўна. У кожнай вёсцы раскватэраваны.

— Якія ваенныя збудаванні ведаеш?

— Прыходзілася працаваць на ўмацаваннях, аэрадромах, мастах, дарогах. Ёсць што расказаць. Толькі, другім разам... Я абавязкова прыйду. А цяпер мне пара.

— Ахова будзе шукаць?

— Не. Хлопцы будуць лаяцца, што так доўга. Ахоўнік наш маршыруе ды арцікулы выкідвае са страявой падрыхтоўкай. Не ўсе дома... — Іван пакруціў пальцам каля скроні. — Да нас ён не вельмі прыглядаецца...

Ён набраў вады.

— Не выдасі, Іван?

— Не сумнявайцеся. Я хутка вярнуся. Пра ўсё пагаворым.

Вось табе новы клопат! Як быць? Што рабіць? Пайсці адсюль днём нельга: лес голы — далёка відаць. І сядзець не будзеш, схаваўшы галаву, як страус.

Падпаўзлі бліжэй да лесасекаў, сталі сачыць за Громавым. Да ахоўніка ён не падыходзіў. Калі пасля абеду Громаў яшчэ з адным палонным накіраваўся да раўчука, мы паспяшаліся туды.

— Аляксей Лазавы, — назваў сябе каржакаваты круглатвары хлапец. — З Таганрога. Рыбак з Пятрушынай касы. Бульбачкі прынеслі. Відаць, не часта ясцё гарачанькае? Эх, даўно я сваіх не бачыў! — Вочы яго свяціліся радасцю, шчырасцю. Здавалася, ён не стрывае, кінецца ў абдымкі. Але нас раздзяляла тое, што звычайна раздзяляла людзей са зброяй і бяззбройных — гэта, відаць, і стрымлівала рыбака з Пятрушынай касы.

— Давайце пра справу пагаворым, — прапанаваў я і разгарнуў карту. — Вы можаце паказаць, дзе знаходзяцца абарончыя збудаванні, аэрадромы, казармы?

— На карце не зможам, — прызнаўся Громаў. — Лепш так раскажам. Многа ўмацаванняў за ракой Дайме. Чаго толькі там няма! Потым, на гэтым, як яго, Земскім паўвостраве каля Кенігсберга — таксама многа збудаванняў.

— Мо — Земландскім? — перапытаў я, гледзячы на карту.

— Во-во, — пацвердзіў Іван. — На той бок Кенігсберга. А на гэты бок — аэрадром.

— На хутары Шмаленберг у іх шпіёнская школа, — паведаміў у сваю чаргу Аляксей.

— Адкуль вы гэта ведаеце?

— Хлопцы з лагера гаварылі. Там рускіх, здраднікаў, вучаць.

Гэта дзе мы ноччу былі? — спытаў у мяне Генка.

— Так. Гэта той хутар, — пацвердзіў я, паглядзеўшы на карце.

— Вось што, хлопцы, ваша адсутнасць можа выклікаць падазрэнне. Пастарайцеся напісаць усё, каб ніхто не бачыў. Ёсць такая магчымасць? — перапыніў я гутарку.

— Мяне вазілі ў Берлін. У марское міністэрства. Палічылі за канструктара падводных лодак. І пра гэта напісаць? — спытаў Аляксей Лазавы.

— Абавязкова. Толькі асцярожна.

— Ноч вялікая. Толькі б карандашык і паперы нам...

— Знойдзецца. — Я даў ім блакнот і карандаш. — Схавайце пад гэтай купінай. Я падрэзаў яе напалавіну так.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ВУЧНІ З МАЛІННІК

Вучні пачатковай школы ў Маліннiках (Бельскі павет) добра дапамагаюць птушкам і звярам пeражыць суровую снежную зіму. Яны зрабілі шмат кармушак і паснікаў і штодзённа носяць свежы корм. Аб ежы для птушак паклапаціліся яны ўжо восенню. Тады ўжо сабралі нямала рознага зерня.

Восенню збіралі таксама яны і ягады з рабіны, якія пасля прадалі. Працавалі таксама пры капанні бульбы ў ПГР-ы ў Дыдулях. Збіраюць далей макулатуру. Такім чынам, сабралі шмат грошай, якія знаходзяцца ў школьнай ашчаднай касе.

Варта падкрэсліць і тое, што школьнікі з Маліннік цікава і арганізавана праводзяць свой вольны час. Наладжваюць ігры на снезе, ходзяць у лес на прагулку, вучацца катацца на каньках.

**Янка Цялушэцкі**

## ЛЯСНОЕ СОС

Суровая зіма. Усё пакрыта снегам. Цяжка жывецца птушкам і лясным звярам. Пішуць у газетах: «Дапамагай птушкам і звярам». Часта і па радыё просяць аказваць дапамогу гэтаму беднаму стварэнню. Але ў нас наадварот. Замест вынесці жменю сена ці канюшыны, выносяць драцяныя петлі. Вось заяц падсілкуецца такой здабычай, калі сустракаецца ўжо з галоднай смерцю. Нашто ж гэта? Выглядае так, нібы мы самі не мелі чаго есці. Не тыя ўжо часы. За такія ўчынкі ўсе заслугоўваюць на назву «фашысты». Ёсць нават вучні пачатковай школы, якія займаюцца лоўляй зайцаў. Сорам, дзеці!

**Лясны стражнік,** Бельскі павет

## МОЛАДЗЬ З ВЁСКІ СКРАБЛЯКІ

Гуртoк ЗМВ у вёсцы Скрабляки (Беластоцкі павет) быў заснаваны ў 1968 годзе. На старшыню яго выбралі Грышу Лісоўца.

У гуртку працуюць 23 асобы. Моладзь арганізуе танцавальныя вечарыны, прымае актыўны ўдзел на занятках праблемнага курса, падымае ленінскую тэматыку, прывозіць да сябе кінафільмы, якія глядзяць усе жыхары вёскі, наладжвае гутаркі аб міжнароднай сітуацыі. Апрача гэтага, моладзь працавала грамадскім чынам пры пасадцы лесу, пры адснежванні чыгункі і палявых дарог. Гурток арганізаваў нядаўна спатканне з намеснікам старшыні павятовага праўлення ЗМВ — Стэфанам Нікіцюком і сакратаром павятовага аддзела БГКТ у Беластоку Янкам Цялушэцкім.

Ц. Я.
Скрабляки

## У РЫГАРОЎЦАХ

Члены гуртка БГКТ у Рыгароўцах (старшыня гуртка Валя Радзівонюк) стараюцца, каб у сваёй вёсцы ўтварыць клуб. Дазвол ужо атрымалі. Трэба яшчэ дабіцца, каб прэзідыум ГРН аплачваў нанятае памяшканне. (мх)

---

што яна прыўзнімалася з аднаго боку. Тут вы знойдзеце і нашу запіску, калі не зможам сустрэцца.

Мы развіталіся.

Я склаў планшэт. Пачалі сілкавацца.

— Пойдзем мы адсюль, Генка, за Дайме, куды «Цэнтр» загадаў. Сваім пакінем запіску пад каменем, а гэтым — пад купінай. Разведаем мясцовасць, а тады вернемся — будзе што перадаць «Цэнтру». Нага ўжо не так баліць.

На захад, за Дайме, ляжаў Кенігсберг. А на поўдзень ад гэтага горада-крэпасці — вялікі Хайльсбергскі раён умацаванняў. З цяжкасцямі пераброліся цераз Дайме, недалёка ад горада Лабіаў. І падаліся на поўдзень, да горада Тапіаў. Потым павярнулі на захад, у напрамку Прэйс-Эйлау. Ад горада Эйлау крута павярнулі на поўнач, і дайшлі да ракі Прэгель, на якой стаіць Кенігсберг. За тыдзень прайшлі ўздоўж знешняга абводу Хайльсбергскага ўмацаванага раёна, абследавалі многія аб'екты. Умацаванні здзіўлялі сваёй магутнасцю. Таксама, як пад Інстэрбургам, Гумбіненам і Гольдапам, абарончыя пазіцыі размяшчаліся адна за адной. Войск тут яшчэ не было. Двойчы давялося наведваць хутары — браць харчы. Абыходзілася без непрыемнасцей.

Перад намі была Прэгель. Не думалі, што яна такая шырокая. Пераплываць — гэта ўсё роўна, што ісці на самагубства. Тым больш, што стала зусім холадна. Мы рашылі вяртацца на базу — да паштовай скрынкі нумар два.

Павінны ж «джэкаўцы» пабываць там.

(Працяг будзе)

## НА ДАРОЗЕ ДА ПАЎЛАЎ

Зіма цяпер марозная і снежная. 27 і 28 студзеня зноў бушавала завея, зноў з-за снегу не было магчымасці даехаць нават да суседняй вёскі. Але ехаць трэба. Трэба адвозіць малако ў малачарню, патрэбны тавары да крамы, ёсць патрэба сялянам дастацца ў горад ці нават да ГРН-у. А ў Паўлах ёсць злеўня малака, і сюды прывозяць малако з Канюкаў, Цялушак і Давідавічаў, а мясцовыя трактарысты напоўненыя канвы дастаўляюць да акруговай малачарні ў Заблудаве.

Ад Паўлаў да шашы 4 км. Каб была сувязь са светам, неабходна было расчысціць дарогу на гэтых 4-ох км. Раніцай 29 студзеня солтыс Мікалай Букач загадаў усім браць лапаты і выйсці да прачысткі дарогі. Раней солтыс дагаварыўся з прэзасам сельскагаспадарчага гуртка і начальнікам пажарнай каманды, каб далі яны трактары і самаход. Людзі, якія сабраліся расчышчаць снег, з драўляных бэлек зрабілі спецыяльны шырокі плуг для рассоўвання пушыстага снегу. Першы след рабіў з Паўлаў да Рыбал самаход пажарнай каманды. Вёў яго Лёня Харытанюк. За самаходам два трактары цягнулі гэты плуг. Ззаду ішлі паўлаўскія жыхары з лапатамі і падчышчалі снег за машынамі, раўнялі дарогу. За паўтары гадзіны дарога была ачышчаная. Назаўтра з поўнай сумкай газет і лістаў мог я ехаць гэтай дарогай веласіпедам. Ды не толькі я.

Вось каб так і іншыя вёскі ўзяліся за адснежванне, дык выгода была б для многіх.

Пісьманосец з Рыбалаў
Уладзімір Гуралеўскі

## АБРАЗОК З ПЛЮЦІЧ

Не спыняюцца заклікі гурткоў паляўнічых, таварыстваў апекі над жывёлай, лігі аховы прыроды і іншых арганізацый — дапамагчы звярам і выратаваць іх ад галоднай смерці. Сёлетняя суровая зіма ўжо не толькі звярам, але і ўсім нам далася ў знакі.

Вельмі прыемна было адчуць, што гэтыя заклікі не ідуць на марна. Пад'язджаючы да вёскі Плюцічы (Бельскі павет), мы ўбачылі, што за стадоламі, у полі клапатлівая рука селяніна кінула там і сям пад кустамі сена для галодных зайцаў, церуху і авёс для бедных курапатак.

І адразу павеяла нейкай цеплынёй, адразу паявілася ўпэўненасць, што звяры і птушкі не самотныя, што шчасліва пераживуць зіму.

А можа гэта не таму, што быў заклік? Можа ў гэтым — уся натура селяніна, так блізкая прыродзе і так зжытая з ёю? Натура чалавека, удзячнага палям, лясам і звярам... (ч. а.)




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

Жыву на вёсцы, маю 17 год. Пазнаёміўся з Марысяй, якая мне вельмі спадабалася. Я ёй таксама. Неўзабаве сустрэў Крысю, якая жыве ў суседняй вёсцы. Крыся мне яшчэ лепш спадабалася ад Марысі.

Парай, Сэрцайка, што мне рабіць: ці надалей «хадзіць» з Марысяй, ці пацікавіцца Крысяй?

**Ваня з Гайнаўшчыны**

**Ваня!** Учора падабалася табе Марыся, сёння — Крыся, а заўтра яшчэ іншая. Нічога зрэшты дзіўнага, маючы 17 год, цяжка вырашыць справу: якую з іх выбраць? Не перажымайся, «хадзі» з той, якая лепш падабаецца. А так па-праўдзе, дык ты, Ваня, лепш пацікаўся чым іншым, больш карысным. Замест траціць час на роздумы, катовую з іх выбраць, лепш пайсці ў бібліятэку і ўзяць добрую кніжку. Або заняцца яшчэ чым іншым, цяпер жа на вёсцы арганізоўваюцца ўсялякія цікавыя мерапрыемствы, таму лепш у тым кірунку выладаваць сваю энергію. А на дзяўчат яшчэ будзеш мець час. Пераканаешся, што гэта добрая рада.

Лёня з Беласточчыны! Нічога табе іншага не магу параіць, як толькі звярнуцца ў гэтай справе да лекара-дэрматолага. Падаю табе адрас: Wojewódzka Przychodnia Dermatologiczna, Беласток, вул. Маніфесту Ліпцовага 3.

**Сэрцайка**

Яшчэ раз аб сталовых

## КАМУ ПАТРЭБА ШЫЛЬДА?

У супраслянскім рэстаране смачна вараць абеды. Гэта ведаюць не толькі супраслянцы, але нават і многія жыхары Беластока, якія ў летнюю спякоту любяць адпачываць над ракой Супраслю і якім не раз даводзілася паабедаць у тутэйшым рэстаране.

Прыкрая неспадзянка сустрэла нас тут у адну з зімовых нядзель, калі мы ўсёй сям'ёй вырашылі паехаць на ўлонне прыроды, паглядзець на мёртвую цяпер раку і гістарычныя палацы ў зімовых шатах, а заадно і паабедаць у Супраслі.

У першай зале, куды мы ўвайшлі, было поўна падпіўшых мужчын, якія сядзелі над кілішкамі гарэлкі ці куфлямі піва. Мы адразу ж прайшлі ў другую залу, дзе на сцяне вісеў выразны друкаваны надпіс «Безалкагольная зала». Мы селі і пачалі чакаць афіцыянтку, якая пачынала падаваць абеды ад 13-ай гадзіны. І сапраўды, зараз па першай яна была ў нашай зале, а праз дзесяць мінут ужо несла першыя заказы.

Якое ж было нашае здзіўленне, калі на яе падносе мы не ўбачылі доўгачаканага супу: на ім горда стаялі паўлітроўкі, поўныя або налітыя да паловы. Гэта, відаць, тут была найважнейшая частка абеду, найлепшы прысмак, над якім не трэба напрацавацца, а зарабіць найлягчэй!

Дык для каго ж была шыльда «Безалкагольная зала»?

А. Ч., Беласток

## СПРАВАЗДАЧНЫ СХОД ВОДНАЙ СУПОЛКІ

27 студзеня гэтага года ў Трасцянцы адбыўся справаздачны сход воднай суполкі «Малынка». На сходзе шмат гаварылася аб значэнні меліярацыі даліны рэчкі Малынка, якая дае сялянам вёсак Белкі, Сакі і Трасцянка добрае сена.

Члены суполкі падкрэслівалі неабходнасць будаваць застаўкі і наваднящь сенажаці, гаварылі аб угнаенні сенажацяў і доглядзе за меліярацыйнымі равамі.

Прысутныя на сходзе зацвердзілі бюджэт на 1970 г. Водная суполка ў Трасцянцы мае двух штатных рабочых, якім плаціць па 1000 зл. у месяц Рабочыя добра даглядаюць і ачышчаюць меліярацыйныя равы.

Ярош, Трасцянка

## З КОНКУРСУ ПА ГІСТОРЫІ

У тых школах, дзе навучаецца беларуская мова, для васьмікласнікаў быў арганізаваны конкурс па гісторыі Беларусі. На Гайнаўшчыне найбольш такіх школ, і таму найбольш было асоб якія рыхтаваліся, каб паказаць узровень сваіх ведаў. Шмат увагі прысвяціла гэтаму конкурсу кожная амаль школа. У канцы снежня ў Гайнаўцы адбыліся павятовыя элімінацыі гэтага конкурсу, арганізаваныя інспектаратам асветы і аддзелам БГКТ. Сёння змяшчаем здымкі з гэтых элімінацый. (мх)

Фота В. Бура

**Журы конкурсу. Настаўніца О. Гарустовіч дыктуе пытанні.**



**Вучні адказваюць пісьмова на пытанні.**



**Памятны здымак удзельнікаў павятовых элімінацый.**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

,,Miłość i jazz'' (szwedzki), 24—25.II, ,,Francja naprzód'' (franc.), 26—27.II., ,,Lalka'' (polski), 28.II.—1.III.

**Дубіны**

,,Czerwone i złote'' (polski, ,,Wyzwanie dla Robin Hooda'', (angl.), 28.II—1.III.

**Нараўка**

,,Zawsze w niedzielę'' (polski), 25.II—1.III.

**Нарва**

,,Twój współczesny'' (radz.), ,,Nauczyciel z przedmieścia'' (angl.), 25.II—1.III.

**Чыжы**

,,Deszcz padał na szczęście'' (czeski), ,,Molo'' (polski), 25.II—1.III.

**Дубічы Царкоўныя**

,,Taki duży chłopiec'' (radz.), ,,Komedia pomyłek'' (polski), 25.II—1.III.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

,,Burza'' (jugosł.), ,,Pustelnia Parmeńska'' (franc.), 25.II—1.III.

**Орля**

,,Mój stary'' (polski), ,,Brat dr Homera'' (jugosł.), 25.II—1.III.

**Райск**

,,Dziennik młodego małżeństwa'' (fiński), ,,Zbrodnia przy ulicy Dantego'' (radz.), 25.II—1.III.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Міхалова**

,,Sabrina'' (USA), 24—25. II. ,,Wyspa na lądzie'' (węgierski), 26.II—27.II., ,,Operacja Belgrad'' (jugosł.), 28.II—1.III.

**Крынкі**

,,Flip, Flap i inni'' (USA), 24—25.II. ,,Dziewczyna z diabelskiej przystani'' (węgierski), 26—27.II. ,,Dożyjemy do poniedziałku'' (radz.), 28.II—1.III.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

,,Za frontem'' (radz.), 24—25.II. ,,Upiór z Morsville'' (czeski), 26—27.II. ,,Wiryneja'' (radz.), 28.II—1.III.

**Мельнік**

,,Stawka większa niż życie'' (polski), ,,Koniec agenta W4C (czeski), 24.II—1.III.

**Мілейчыцы**

,,Fifi piórko'' (franc.), 24—25.II. ,,Hugo i Józefina'' (szwedzki), 26—27.II., ,,Nowy'' (polski), 28.II—1.III.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

,,Kolekcjoner'' (czeski), ,,Kobieta wąż'' (angl.), 25.II—1.III.

**Новы Двор**

,,Cena strachu'' (franc.), ,,Towarzysz Regent'' (czeski), 28.II—1.III.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego PUPiK ,,Ruch'' NBP Nr 150-6-161 w Białymstoku. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych ,,Ruch'' Warszawa, ul. Wronia 23 Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ ,,Ars Polona'' Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. W-3 Nakład 7173

## ХТО Б МОГ ПАВЕРЫЦЬ

Часта да нас у аддзел заходзіў Хвядос Царык, загадчык гаспадарчай часткі. Аднойчы пры ім пачалася гаворка пра жонак. Апанас Іванавіч паскардзіўся, што яго палавіна ні разу смачна есці не прыгатавала. Язэп Паўлавіч прызнаўся, што яго жонка толькі модамі захапляецца. Адным словам, кожны з нас знаходзіў нейкія хібы. І толькі Хвядос неяк сарамліва заявіў: «О не-э-э... мая Надзя не такая. Вы ж самі ведаеце, — звяр нуўся ён да ўсіх прысутных, — яна працуе прыбіральшчыцай. А хто скажа, што мая Надзейка не спраўляецца з работай? І дома ўсё дагледзіць, і ад моды не адстае».

Мы ўсе пазайздросцілі яму. Хоць яго Надзя і была прыбіральшчыцай, але, гляну ўшы на яе, не скажаш, што яна прыбіральшчыца. На руках манікюр. Бровы падведзены. Губы крышку падфарбаваны. Апраналася Надзя з густам. А якая працавітая яна была! У кабінетах чысціня: падлога заўсёды да бляску начышчана: цярні насовачкай па падаконніку ці па раме — пылінкі не знойдзеш. А крэслы як расстаўляла, для танчэйшых — бліжэй да стала, для таўсцейшых — крышку далей. На сталах парадачак: пад правую рукою ў кожнага чарніліца, пад леваю прэс-пап'е...

Грэх падумаць было, што Царык хлусіў.

Мы прыходзілі на працу звычайна к дзевяці гадзінам. Назаўтра далі мне тэрміновае заданне, і я пайшоў к сямі. Толькі сеў за стол, як раптам пачуў знаёмы голас, які даносіўся з суседняга кабінета. Не! Я не памыліўся. Гэта быў голас Надзі, жонкі Царыка. Яна некім камандавала: «Падмяці пад сталом! Лепш! Вытры пыл на падаконніку! Анучу добра выціскай! Не лянуйся!»

«Напэўна, сама сябе муштруе», — усміхнуўся я і разгарнуў папку са справамі. Але... адчыніліся дзверы. На парозе з'явіўся Хвядос. Без шапкі. Без пінжака. Успацелы. Рукавы сарочкі закасаны вышэй локцяў. У адной руцэ ён трымаў венік з анучаю, а ў другой — вядро з вадою. Ззаду стаяла яго Надзя. Наманікюраная. Падфарбаваная.

З. Бяспалы





— Жонка баіцца, каб я не прастудзіўся.

# НІЎКА



### Галаваломка



Упісаць у квадрат лікі так, каб яны па гарызанталі, вертыкалі і дыяганалі далі ў суме 99.

**Адказ на заданне з папярэдняга нумара:**




### УВАЖЛІВАЯ ПРЫЧЫНА

Грамадзянін прыйшоў у аддзел сацыяльнага забеспячэння за матэрыяльнай дапамогаю.

— У вас многа дзяцей? — пытаюцца ў яго.

— Дзяцей то мала, але сем'яў дужа многа...

### КІНУЎ ПІЦЬ

Адзін п'яніца просіць другога:

— Раскажы, браток, як ты кінуў піць?

— Дзіўнага тут няма нічога. Аднойчы пасля добрай выпіўкі мне здалося, што дома мяне сустракаюць дзве цёшчы.

### У ШКОЛЕ

Настаўнік:

— Што напісаў Шэкспір?

Вучань:

— Цэлую кучу цытат.

### КЛАПАТЛІВАСЦЬ

— З кім ты ўчора цалавалася ў парку?

— А ў якім парку?

### НАВОШТА?

Дырэктар аднаго прадпрыемства ўбачыў, што яго начальнік спіць за рабочым сталом.

— Як вам не сорамна! Вы спіце ў рабочы час. З наступнага месяца я вызвалю вас ад работы.

— З наступнага месяца? Дык навошта вы тады пабудзілі мяне сёння?

### НІЧОГА ДЗІЎНАГА

Спаткаліся знаёмыя.

— Слухай, Іван! Ты прадаеш газіраваную ваду, а дом вунь які адбабахаў. Як гэта табе ўдалося на вадзе такі дом пабудаваць?

— Нічога дзіўнага. На вадзе ж, браце, і гіганцкія электрастанцыі будуюць.

### ЦЯРПЛІВЫ

У цырульні майстар голіць кліента і пытаецца:

— Вам не балюча?

— Галіце, галіце, я не такія цяжкасці перажыў.

### ЧАМУ

— Вася, чаму ты не пішаш, а сядзіш склаўшы рукі? — пытаецца настаўнік.

— Мая ручка стамілася, няхай адпачне...

### ВОЎК І АВЕЧКІ

Воўк зноў стаў кіраваць
Авечкай чарадою...
Даведка ёсць, відаць,
Што корміцца травою.

Н. Парукаў



— Пайду да суседа, крыху пагавару.

### КАМЕРЦЫЯ ПЕРШ ЗА ЎСЁ

Жан Легран, камівояжор, спыніўся ў гасцініцы. Апоўначы ў дзверы яго пакоя пастукаў гаспадар, які прыбег сказаць, што дом загарэўся.

— Уставайце хутчэй, дом палае!

— Добра, добра, — адазваўся Легран, — я ўстаю, але заплачу я вам толькі палавіну цаны за мой нумар.

### ТЭЛЕФОН

Сучасная тэлефонная размова.

— Дарагая, ці не прыйдзеш ты на маё вяселле?

— А на кім ты жэнішся?

— На табе!

— На мне? Тады трэба падумаць. Пачакай, але ж я не ведаю, з кім гавару.

### ВЕДАЕЦЕ, ХТО Я ТАКІ?

Каля аднаго з вагонаў стаяць двое і размаўляюць. Да іх падышоў дзяжурны і сказаў:

— Калі ласка, паважаныя пасажыры, сядайце ў вагон!

Тыя як быццам і не чулі — спакойна вядуць размову.

Зноў падышоў дзяжурны.

— Пачакайце, — сказаў адзін з іх, — я яшчэ не скончыў размаўляць. Вам жа вядома, хто я такі? Я — міністр чыгуначнага транспарту!

— Тады я вам пакажу, хто я, — адказаў дзяжурны і даў знак для адпраўкі.

Поезд пайшоў без міністра.

### ПРЫЗНАННЕ

— Ці зможаце вы закахацца з першага пагляду?

— Не.

— Ну, добра, тады я заўтра зайду яшчэ раз.

### У ТЭАТРЫ

Рэжысёр казаў маладой артыстцы:

— У новай п'есе вы будзеце іграць ролю наівопытнай, сарамлівай дзяўчынкі. Ці маеце вы хоць які-небудзь вопыт у гэтых адносінах?

### КРОПЛЯ Ў КРОПЛЮ

— Ваша дачка, — гаворыць госць, звяртаючыся да гаспадара дома, — іграе на раялі кропля ў кроплю, як мой начальнік.

— А ён таксама іграе?

— Не, але яго правая рука не ведае, што робіць левая, — адказаў госць.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**По просьбе Олі Дрэўноўскай, Мані Сахарчук, Янкі Сахарчука і Юркі Казлоўскага з Ляўкова, Гайнаўскага павета змяшчаем песню п. з.**

## • ТЁМНАЯ НОЧЬ •

Тёмная ночь, только пули свистят по степи,
Только ветер гудит в проводах, тускло звезды мерцают.
В темную ночь ты, любимая, знаю, не спишь,
И у детской кроватки тайком ты слезу утираешь.

Как я люблю глубину твоих ласковых глаз,
Как я хочу к ним прижаться сейчас губами!
Тёмная ночь разделяет, любимая, нас,
И тревожная, черная степь пролегла между нами.

Верю в тебя, в дорогую подругу мою,
Эта вера от пули меня темной ночью хранила...
Радостно мне, я спокоен в смертельном бою,
Знаю, встретишь с любовью меня, что б со мной ни случилось.

Смерть не страшна, с ней не раз мы встречались в степи.
Вот и сейчас надо мною она кружится.
Ты меня ждешь и у детской кроватки не спишь,
И поэтому знаю: со мной ничего не случится!

### ЯК

— Як вы выхоўваеце сваё дзіця?

— Цудоўна, заўсёды слухаемся яго.

### СЫМОН — ЖМАК

Сымон быў вельмі скупы чалавек. Гаварылі, што ў яго нават снегу зімой нельга было выпрасіць. Не толькі людзям, але і сабе ён усяго шкадаваў. Каб меней расходаваць на харчы, клаўся Сымон спаць завідна, а ўставаў апоўдні. Устане і смяецца — рады чалавек: збярог і вячэру, і снеданне. Паволі апранаецца, паходзіць сюды-туды каля хаты, нарэшце памыецца, перахопіць чаго-небудзь і зноў кладзецца на ложак. Кпілі з яго, канешне, людзі: і радня, і суседзі, і знаёмыя, і незнаёмыя.

— Вам у Стайкі? У тыя, што ля Кандратовіч, ці ў тыя, дзе Сымон-жмак жыве?

Так і жыў чалавек пад гэтым двайным імем — Сымон-жмак.

Аднойчы раніцою чуе Сымон, як жонка яго пытае: «Сымон, га, Сымон, як табе яешню рабіць: біць яйка ці толькі палавіну?»

Завагаўся Сымон, аднак успомніў, як аднавяскоўцы кпяць з яго за скваппнасць і рашыўся: «Бі ўсё!» Падумаў крыху і працадзіў скрозь зубы: «Хай ведаюць, як Сымон-жмак жыве!»

Сказаў і прачнуўся. Перапалохаўся, ускочыў ды як закрычыць: «Стой, стой, жонка, бі палавіну. Цэлае мы і на вялікдзень паспеем з'есці!».



— Мы сваю машыну эксплуатуем круглы год.

## КУРЬЁЗЫ

### КУДЫ ПАЛЕЗУЦЬ ЦЭНЫ?

У Заходняй Еўропе працягвае лютаваць эпідэмія вельмі ўкарочаных жаночых «міні-спадніц». Як вядома, на такое адзенне ідзе менш матэрыялу, а таксама і мыла на мыццё. У сувязі з гэтым французскія модніцы пачалі кампанію за зніжэнне цэн на мыццё такіх паўспадніц і іх хімчыстку. Кампанія праводзіцца пад заклікам: «Спадніцы ўгору — цэны ўніз».

Багатыя ўладальнікі міні-адзення матывуюць гэта клопатамі аб бедных. Невядома толькі, калі спадніцы пойдуць уніз, куды палезуць цэны.

### НОВЫ ВІД БІЗНЕСУ

На аўтамабільных перавозках грузаў у ЗША вырас новы від злачыннасці. Як паведамляюць кампаніі, страты ад крадзяжу грузаў складаюць мільярд долараў штогод. Большасць з іх адбываецца сярод белага дня на шматлюдных вуліцах. Па заяве судовых улад, у крадзяжах замешаны гангстэрскія сіндікаты, якія часта карыстаюцца паслугамі асведамляцеляў. Кошт партыі ўкрадзеных грузаў звычайна вагаецца ад 50 да 150 тысяч долараў.

### СЕНАТ — НЕ ЛАЗНЯ

Адным з выдатнейшых нямецкіх матэматыкаў XX стагоддзя была Эмі Нетэр — творца агульнай алгебры. Не зважаючы на яе агульнавядомыя навуковыя заслугі, шмат гадоў ёй адмаўлялі ў прыват-дацэнцкім званні.

— Як можна дапусціць, каб жанчына стала прыват-дацэнтам? Стаўшы прыват-дацэнтам, яна можа стаць прафесарам і членам універсітэцкага сенату. Хіба можна дазволіць, каб жанчына ўвайшла ў сенат?

На гэта славуты матэматык Давід Гімбер заўважыў:

— Але ж, панове, сенат — не лазня. Чаму не можа туды ўвайсці жанчына?




Самае лепшае бюро паслуг — укамплектаванае падхалімамі.